

# наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***Францішак Багушэвіч***




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** № 43 (729) 9 ЛІСТАПАДА 2005 г.

## Ухвала IX з'езду ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" "Сучасны стан і перспектывы развіцця беларускай мовы"

Сённяшняя моўная сітуацыя ў Беларусі наўпрост звязана з працэсамі дэмакратызацыі і ўзмацнення грамадскай актыўнасці. Як паказваюць нашы акцыі па зборы подпісаў, грамадзяне актыўна выступаюць за належнае месца дзяржаўнай беларускай мовы ў радыё- і тэлеэфіры, у сферы банкаўскіх паслуг, у развіцці гандлю, у рэкламатворчасці.

Беларуская мова пад ціскам грамадзян пашырае сваё функцыянаванне і ўваходзіць у жыццё як арганічны элемент сучасных дынамічных сродкаў камунікацыі. Валоданне беларускай літаратурнай мовай становіцца прыкметай "добрага тону" і сведчыць аб прыналежнасці носьбіта да высокаадукаванай часткі грамадства, не проста нацыянальна сведамай, але з выразна акрэсленай патрыятычнай грамадзянскай пазіцыяй.

Створаны пэўныя перадумовы для паспяховага функцыянавання беларускай мовы ў заканадаўчай сферы. Аднак застаецца шэраг неразвязаных праблемаў з ужываннем беларускай мовы ў сферы адукацыі і на тэлебачанні. Менавіта гэтыя сферы патрабуюць пільнага грамадскага кантролю.

г. Менск,
30 кастрычніка 2005 г.

## Зварот IX з'езду ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" на прадмет адкрыцця Нацыянальнага універсітэта

Беларускамоўная школьная адукацыя знаходзіцца ў крытычным стане. Штогод закрываюцца беларускія школы ў гарадах і вёсках. Колькасць дзяцей, якія навучаюцца па-беларуску скарацілася значна ніжэй за прыняты ЮНЕСКА мінімум, неабходны для выжывання мовы. Моўны рэжым у шматлікіх школах не вытрымліваецца, зарэгістраваныя выпадкі адмовы ў магчымасці навучання па-беларуску.

Нягледзячы на такое цяжкае становішча, 301 250 дзяцей, або 23,8% моладзі краіны, што навучаюцца па-беларуску ў сярэдніх агульнаадукацыйных школах, і іх бацькі вераць у магчымасць працягнуць адукацыю на роднай мове ў вышэйшых навучальных установах. Ні ў дзяржаўных, ні ў прыватных ВНУ магчымасці для гэтага не створаны: адсутнічаюць беларускія плыні, колькасць беларускамоўных групаў мізэрная. Наяўная сітуацыя супярэчыць канстытуцыйнаму праву грамадзян Беларусі атрымліваць адукацыю на дзяржаўнай беларускай мове згодна з артыкулам 32 Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" і артыкулам V.2 Пастановы Міністэрства адукацыі № 48 "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" ад 27.08.2001 г.

Мы звяртаемся да кіраўніцтва Беларускай дзяржавы з просьбай адкрыць Нацыянальны універсітэт з выкладаннем усіх прадметаў на дзяржаўнай беларускай мове. Воля грамадзян Беларусі атрымліваць вышэйшую адукацыю па-беларуску і гарантаваць гэтую магчымасць сваім дзецям выразна адлюстравана ў 50 000 подпісаў за стварэнне Нацыянальнага універсітэта, сабраных ТБМ. Лічым абавязковым прыслухацца да волі грамадзянаў краіны і распачаць працу па адкрыцці адпаведнай навучальнай установы ў найбліжэйшы час. 50 тысяч грамадзянаў не могуць памыляцца!

г. Менск,
30 кастрычніка 2005 г.

## Зварот IX з'езду ГА "ТБМ Францішка Скарыны" "Аб адносінах Еўрапейскай Камісіі да мовы інфармацыйнага вяшчання на Беларусь"

Мы, удзельнікі IX з'езду ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", рашуча выступаем супраць моўнай палітыкі, якая апошнім часам праводзіцца Еўрапейскай Камісіяй у дачыненні да Беларусі.

Яскравым прыкладам гэтай палітыкі з'яўляецца сітуацыя вакол "Нямецкай хвалі". Выклікае неразуменне той факт, што правы на вяшчанне атрымала кампанія, прадстаўнікі якой пагаджаюцца з суб'ектыўным сцверджаннем кшталту: "На беларускай мове размаўляюць неадукаваныя сяляне, якія супраць незалежнасці, а на рускай – адукаваныя, і якія за незалежнасць", і дазваляюць сабе выказванні тыпу: "За беларускую мову выступае нявялікая група апазіцыянераў".

Усё гэта наводзіць на думку пра няведанне і неразуменне сітуацыі ў Беларусі не толькі асобнай кампаніяй, але і ў Еўрапейскай Камісіі, адзін з прадстаўнікоў якой заявіў, што большасць насельніцтва Беларусі – гэта этнічныя рускія.

Паколькі Еўрапейская Камісія збіраецца і далей пашырыць праграму інфармацыйнага вяшчання на Беларусь, мы заклікаем арганізаваць тэндар сярод кампаніяў тых краін Еўразвязу, якія яшчэ надаўна зведалі на сабе ціск савецкай каланіяльнай сістэмы – таталітарызм, русіфікацыю, рэлігійны ўціск і г. д., якія непасрэдна мяжуюць з Беларуссю, і палітычныя эліты якіх больш разумеюць сітуацыю ў нашай краіне, а таксама значэнне беларускай мовы ў дэмакратызацыі грамадства.

г. Менск,
30 кастрычніка 2005 г.

# 16 лістапада - 80 гадоў Кастусю Акулу



**АКУЛА Кастусь** (сапр. К а ч а н Аляксандр Ігнатавіч; нар. 16.11.1925, в. Верацеі Докшыцкага р-на Віцебскай вобл.), празаік, паэт, драматург. Піша на беларускай і англійскай мовах. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У чэрвені 1944 паступіў у Менскую школу камандзіраў Беларускай краёвай абароны і з ёю пакінуў Менск. Са жніўня 1944 у французскім Супраціўленні, са снежня — у Брытанскай 8-й арміі ў Італіі (2-і польскі корпус). За ўдзел у баях супраць немцаў узнагароджаны залатой «Зоркай Італіі». З 1947 у Канадзе. У Таронта арганізаваў *Згуртаванне беларусаў Канады* (1948, першы яго старшыня), рэдагаваў газ. «Беларускі эмігрант» (1948—54). Рэдагуе часопіс беларускіх ветэранаў «Зважай». У трылогіі «Гараватка» («Дзярлівая птушка», 1965; «Закрываўленае сонца», 1974; «Беларусы, вас чакае зямля», 1981) праз гісторыю беларускай вёскі з сімвалічнай назваю Гараватка імкнуўся паказаць гістарычны лёс Беларусі — гераічнай і мужнай краіны, якая здолела вытрымаць выпрабаванні розных акупацый яе чужынцамі. Раманы «Змагарныя дарогі» (1962), «За волю» (1991) пераважна аўтабіяграфічныя, прысвечаныя лёсу бел. моладзі ў складаных даваенных, ваенных і пасляваенных умовах на Беларусі і за мяжою, яе шляху да нацыянальнай самасвядомасці. У зборнік «Усякая ўсячына» (Таронта, 1984) увайшла проза, паэзія, драматургія Кастуся Акулы, яго аўтабіяграфічныя абразкі.

***С.Б.Сачанка.***

***Сакратарыят ТБМ рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць спадара К. Акулу з 80-годдзем і зычаць яму сілаў у змаганні за Беларусь.***

*(Пра Кастуся Акулу чытайце на ст. 2-3.)*





# СЭРЦАМ З БЕЛАРУСЯЙ

Лета ў Таронце звычайна доўжыцца ажно да лістапада, таму сонечныя вераснёўскія дні, з рудым лісцем на вуліцы, з шапаценнем кашлатых платанаў над галавой і лёгкай ранішняй смугой над ракой Донам выглядаюць зусім летнімі. Мы з пісьменніцай Ірынай Варабей ідзём з самога прыпынку гулкага і чыстага трамвайчыка ўглыб па вуліцы Рывэрсдэйл да невялікага дамка, дзе жыве Кастусь Акула.

Гаспадар ужо на вуліцы, ён вядзе нас праз дом у садок – там выспелі пасаджаныя вясною маліны.

Пунсовыя маліны буйныя, салодкія і без чарвякоў, галіны схіляюцца пад іхнім цяжарам. Набраўшы поўную місу, сядаем за драўляны столік, які атуляе ад сонца яліна і на якім варушацца жывыя сонечныя карункі.

І – пайшла гаворка! Пра сучасную беларускую літаратуру, пра вобразнасць і крытычнасць, пра лёс народа і яго занепад... Сонца даўно перасунулася з-за яліны, яно цікуе ўжо з-за суседскай засені, шэра – дымныя вавёркі ганяюцца адна за адной па лужку, вяргіні ля ганку млява хіляцца долу. Канадыйскае неба чыстае і трохі выцвіла – сіняе, мы пачынаем чытаць вершы і, не гаворачы пра тое адзін аднаму, напоўніцу адчуваем вечную слодыч жыцця і вольнай думкі...

Дзякую Лёсу за радасць гэтага знаёмства, за магчымасць час ад часу сустракацца з Кастусём Акулам ў ягонай хаце, у беларускай царкве св. Кірылы Тураўскага.

Лёс любіць рабіць нечаканыя зігзагі, звязвае ў адно падзеі, пра якія іхнія ўдзельнікі часам не здагадваюцца. У нас са сп. Кастусём аказаўся адзін даўні знаёмы – нажаль, ён рана пайшоў з жыцця.

Некалі даўні знаёмец Барыс Крэпак таямніча прывёў у маю менскую кватэру дацэнта з Кастрамы з італьянскім прозвішчам Гвідоні. Цэлы вечар мы слухалі яго аповяды, якія маглі б стаць сюжэтам для прыгодніцкага фільма: вальнадумец і савецкі дысідэнт Аляксандр Гвідоні, нашчадак славутага італьянскага роду, патрабаваў ад савецкіх уладаў магчымасці з'яднацца з сям'ёй.

Гісторыя ягонага кахання да Галіны Румянцавай, выдатніцы і камсамолкі, якая з цягам часу "перайшла на пазіцыі мужа" і разам з ім распрацавала план уцёкаў з СССР, запомнілася мне ўва ўсіх падрабязнасцях: і як яна, завуч Палаца піянераў, па турысцкай пуцёўцы паехала ў Італію (Аляксандар быў невыязны), там папрасіла палітычнага прытулку, і як улады пад пагрозай выключэння з працы патрабавалі ад яго вяртання жонкі і, здагадаўшыся аб змове, сачылі за кожным крокам так, як умеў гэта рабіць савецкі КДБ... Пасля ўжо я даведалася, што яму пад ціскам міжнароднай супольнасці нарэшце дазволілі выехаць разам з двума дзеткамі ці то ў ЗША, ці то ў Італію.

Аказалася, ён жыў у Таронта і стаў добрым сябрам Кастуся Акулы. Падараваную ім кнігу Гвідоні "Солнце идёт с Запада" я чытала праз 25 гадоў пасля ейнага выдання і наноў перажывала разам з гэтым цудоўным чалавекам ягонае жыццё і выпрабаванні. Гэта быў голас як з майго мінулага, так і з тае Вечнасці, куды так зарана пайшоў былы кастрамскі дацэнт і дысідэнт, і я дасюль спадзяюся, што сп. Кастусь яшчэ напіша пра свайго сябра ўспаміны, якімі ён шчодра дзяліўся падчас нашых сустрэч.

Яму ёсць што ўзгадаць і пра што яшчэ напісаць. Іранічна – насмешлівы і вясёла – гаваркі, рухавы і ўсё яшчэ магутны, Кастусь Акула, уроджаны Аляксандр Качан, сёння самы яркі пісьменнік беларускага замежжа і выдатны грамадскі дзеяч Канады.

Але Усявышні, даючы пісьменніку талент увекавечваць у Слове імклiва – няспынную плынь жыцця, узамен сыпле свайму абранніку поўныя прыгаршчы выпрабаванняў.

Страта Радзімы на самым пачатку юнацтва, чужая зямля, якую абжываў у поце і няспыннай працы, у горычы стратаў і пошукаў, творчы імпульс, які магутна прабіўся і запатрабаваў усяе душы і сэрца — усё гэта ў выніку стварыла Пісьменніка.

Унікальнасць яго найперш у тым, што ўсе творы К. Акулы жывяцца сілай роднай зямлі – далёкай і вабнай, забранай і паняверчанай. Што ўсе вобразы — адтуль, з мясцінаў Глыбоччыны, Меншчыны і дарог, па якіх з болем і неўтаймоўнай надзеяй неўзабаве ўсё ж вярнуцца сыходзіў на Захад, у іншы свет і іншую долю, малады свядомы беларус.

Ён рана адчуў, што беларус і што за гэта, аказваецца, трэба змагацца.

"У нашай вёсцы было шмат дзяцей. Але з настаўніцай, якую прыслалі аднекуль з - пад Сандонежу, напачатку не пашанцавала. Яе мы называлі "ведзьмай". Думаю, што яна асабліва не любіла мяне, бо я ўжо з чацвёртай клясы пытаўся, чаму гэта ва ўсёй гісторыі адны палякі? Як называлася раней, яшчэ да перайменавання яе ў Саславіна (у гонар нейкага расейскага генерала) нашая Круляўшчызна? І многае іншае, на што яна не хацела і не магла даць адказу. Нам было забаронена, нават між урокамі, гаварыць па – беларуску.

Затое пяты клас я скончыў з выдатнымі адзнакамі па ўсіх прадметах (апроч спорту). Які там спорт, калі я ўжо вазіў гной і дапамагаў бацьку па гаспадарцы? "(З інтэрвію 20.03.03 г.)

І праз шмат гадоў, спаткаўшыся з земляком, ягоны герой Сымон Спарыш з рамана "Змагарныя дарогі" (у якім выразна бачыцца сам аўтар) сутыкаецца ўсё з тымі ж пагардлівымі адносінамі да беларускай ідэі:

"—І разумна рабілі, што да палякаў ішлі. А што вы там нейкую Беларусь выдумалі... – плёў далей Красоўскі.—калі яна была, тая Беларусь? Га?

— Як гэта вы гаворыце, выдумалі? – узлаваўся Сымон. – А хто вы, не беларус?

— Я ніколі хамам не быў, — адрэзаў той.

— Ах ты, сукін сын! – гукнуў Сымон і ледзь не кінуўся на паліцая."

Пакаленне Кастуся Акулы, народжанае неўзабаве пасля апусташальнай для Беларусі грамадзянскай вайны і розных інтэрвенцый, паспытала ўсе трагічныя мітрэнгі XX стагоддзя, якія крывавым пажарам абрушыліся найбольш на Беларусь.




На радзіме ён пабачыў паланізацыю, пасля не менш жорсткую русіфікацыю, а таксама і сапраўднае аблічча чырвонай камуністычнай заразы, якая, як пошасць, апанавала родную зямлю і знішчала адвечна – сялянскае, роднае, што было запавешчана ад прадзедаў. З гэтага ўнікальнага досведу нарадзілася трылогія "Гараватка" (1965 – 1981 г.г.), якую можна паставіць у адзін шэраг з такім класічным творам, як мележаўскія "Людзі на балоце", з той агаворкай, што Іван Мележ мусіў пісаць у рэчышчы савецкага рэалізму, у той час як Кастусь Акула не быў абмежаваны гэтымі жорсткімі рамкамі і змог напоўніцу сказаць тую жорсткую праўду аб ахвярах і гвалце з народу, якую Мележ недагаворваў і якая была наступствам камуністычнага таталітарызму з аднаго боку, і захопніцкай расійскай палітыкі, што, знішчаючы мову, знішчала народную душу.

Напісаная яркай, сакавітай народнай мовай, гэтая трылогія ўзнаўляе час перад Другой сусветнай вайной, затым, пасля яе – стварэння калгасаў і цэментавання савецкай сістэмы на Беларусі і, ў прыватнасці, на Глыбоччыне. Але адначасна паказвае яна і супраціўленне нялюдскасці праз вобразы простых людзей, узнімаючы іх да трагедыйнай велічы Быцця.

Ужо ў першай кнізе трылогіі "Дзярлівая птушка"(Таронта, 1965 г.) па – мастацку дакладна перадае пісьменнік рэаліі жыцця беларускай вёскі пад польскай уладай: вось падлетак Янук Бахмач шчыра радуецца мізэрнаму заробку, які яму даюць як пастуху – жыццё яго толькі пачынаецца, маладая пругкая сіла бяжыць па жылах і дае адчуванне радасці навакольнага. Але непасільная праца згінае бацьку. За кошык малінаў у панскім лесе забіваюць ягоную матку Алену. За тое, што сям'я не можа неадкладна заплаціць мясцоваму святару два пуды жыта, той адмаўляецца ладзіць царкоўныя пахавіны па нябожчыцы. У самы горкі для падлетка час, калі ён, як пакліканы старым дубам вешчуном, прыйшоў на ўзвышша, што называлася Гараваткай, яму сустрэўся там дзед Якуб. І нібыта сама Гісторыя гаварыла голасам Якуба. Чаму і як сталася, што беларусу на ягонай зямлі жыць не даюць, і што волю трэба здабываць – гэта хлопец пачуў упершыню, і вочы яго нібыта расплюшчыліся.

У другой частцы трылогіі "Закрываўленае сонца" (1974 г.) Янук Бахмач расце і набірае сілы. Ён ведае – здабыць волю нельга без асветы і без яснага разумення Будучыні, а да яе трэба быць падрыхтаванай. Была захопленая Польшча, Заходняя Беларусь адыйшла да СССР. Новая бязлітасная сіла прыйшла з Усходу, ад яе дзеяннаў "панавала немач і роспач. Сьціскаліся злосна зубы, бездапаможна ў малітвах да Бога складаліся далоні. Блудзіў сялянскі зрок па пагвалчаных нівах і млелі ногі ў чэргах перад дзяржаўнымі крамамі. Чужнік – гвалтаўнік рукамі "ваінствуючых бязбожнікаў" зачыняў сьвятыні, скідаў з вежаў крыжы. Разбураліся адвечныя асновы. Што прыйдзе заўтра? – Ніхай хоць чорт прыдзіць, абы пірамена, абы лепі было жыць, — гаварылі ў роспачы людзі."

У трэцяй частцы трылогіі, якая называецца "Беларусы, вас чакае зямля"(1981 г.) пісьменнік паказвае рэаліі Другой сусветнай вайны, калі на Беларусь прыйшлі немцы.

Звярыны твар фашызму, карныя аперацыя супраць мірнага насельніцтва пісьменнік малюе бязлітасна і дакладна. Але разам з тым ён на поўны голас гаворыць аб патрыётах, аб той частцы беларускай інтэлігенцыі, якая ў гэты не менш жудасны час змагла адчыніць па ўсёй Беларусі нацыянальныя школы, аднавіла набажэнствы ў храмах, дала дзецям праўдзівую гісторыю, якую замоўчвалі стагоддзямі.

Гэтая праўда аб вайне, яе, так бы мовіць, адваротны бок ўсё яшчэ па – сапраўднаму не даследаваны. Нядаўна афіцыйна аднаўленая лінія Сталіна, але толькі высілкамі энтузіястаў аднаўляецца, ды і то па драбінках, гераічная, мужная праца беларускіх асветнікаў – настаўнікаў, святароў, ваяроў часоў вайны. Амаль невядомая праца беларускіх медыкаў, якія ў 1943 годзе стварылі першы на Беларусі сапраўды нацыянальны медыцынскі інстытут.

Кастусь Акула заканчвае раманную трылогію двума сімваламі: калі героі прымаюць рашэнне, што ім рабіць далей, "сонца чырвонай куляй садзілася за хрыбет ліпавіцкага бору", а яны – Янук і ягоная жонка Дуня – "селі пры стале й схілілі перад іконамі галовы", развітваючыся з радзімай і просячы дапамогі ва Усявышняга. Гэтыя сімвалы звездзеныя ў адно не выпадкова, бо " з усходу даляцеў гул артылерыйскай кананады. На зруйнаваную й агаленую зямлю адтуль паўзла шматгаловая хімэра."

"Чырвоная куля" прайшла праз сэрца беларуса, які змушаны быў пакінуць сваю любую зямлю, якая чакала свабоднага сейбіта і будаўніка, а дачакалася новых рэпрэсій і новай няволі.

Далейшы лёс аўтара і ягонага героя працягваліся на зямлі Канады. Кастусь Акула, добра разабраўшыся ў сутнасці камунізму, з усяе моцы змагаўся з "чырвонай пошасцю", якая пэўным часам знайшла сабе добрую глебу на яго новай радзіме. І нездарма ў кастрычніку 1967 года, у дзень Савецкага Саюза на сусветнай выставе ЭКСПО-67, адбыўся эпізод, пра які пісалі многія газеты.



# "Час чумы" і "Сланы Ганібала" у Баранавічах і нашым краі

28 кастрычніка 2005 года вядомы беларускі пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў наведаў г. Баранавічы і раён па запрашэнні мясцовай філіі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Ён прэзентаваў свае новыя кнігі "Час чумы" і "Сланы Ганібала", якія зусім нядаўна пабачылі свет.

Спачатку сустрэча адбылася з навучэнцамі 17-й і 20-й сярэдніх школ горада Баранавічы. Тутака якраз праходзіў тыдзень беларускай мовы і літаратуры, і сустрэча з вядомым пісьменнікам-гісторыкам стала адной з найгалоўнейшых падзеяў падчас свята беларускага слова. Навучэнцы і настаўнікі не толькі набылі цікавыя кнігі Арлова ды і шмат чаго новага даведаліся з гісторыі Беларусі, але і мелі магчымасць прыняць удзел у віктарыне, прысвечанай творчасці Уладзіміра Арлова.

Па запрашэнні настаўніцы гісторыі Дубейка І.В. творчая група Арлова накіравалася ў Жамчужненскую школу Баранавіцкага раёна з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы, а таксама матэматычным і музычным ухілам. На сустрэчу з У. Арловым у мястэчка Жамчужны прыехалі навучэнцы і настаўнікі з суседняй Мірской сярэдняй школы. Прысутных ва ўтульнай актавай зале школы было так шмат, што не было дзе ўпасці яблыку. Але нягледзячы на гэтыя нязручнасці, імпрэза прайшла вельмі цікава і захапляльна. Моладзь паказала грунтоўныя веды, як па гісторыі свайго краю, так і роднай Беларусі. Усе аматары беларускай гісторыі з задавальненнем стаялі ў доўгай чарзе, каб атрымаць асабісты подпіс на толькі-толькі купленай кнізе самага чытанага пісьменніка-гісторыка Беларусі.









Наступным прыпынкам Арлова і яго сяброў стаў Баранавіцкі эканоміка-юрыдычны каледж. Менавіта ў гэтай навучальнай установе студэнты набылі найбольшую колькасць кніг Арлова і сваімі шчырымі і нетрадыцыйнымі пытаннямі не аднойчы прымушалі моцна папацець і панервавацца самога абранніка багіні гісторыі Кліо.

Завяршальным прыпынкам баранавіцкіх вандровак спадара Арлова стала гарадская Цэнтральная бібліятэка імя В. Таўлая. Тутака сабралася творчая інтэлігенцыя горада і шчырыя аматары ягонай творчасці і таленту. Не забыліся прыйсці і супрацоўнікі ідэалагічнага аддзелу Баранавіцкага гарвыканкаму, каб праверыць, магчыма, што гаворыць людзям спадар Арлоў і "чэсны" ён гісторык, ці "нячэсны". Шмат было сказана аб развіцці беларускай гістарычнай навукі за апошнія гады і творчых планах сп. Арлова. Паміж слухачамі і выступоўцам завязалася сапраўдная дыскусія пра гістарычны шлях і цяперашні выбар свайго развіцця нашай краіны. Не змаглі ўдзельнікі імпрэзы абыйсці гаротны стан нашае мовы і ігнараванне дзяржавай беларускамоўнай адукацыі. Але ўсё ж такі сярод удзельнікаў сустрэчы панаваў аптымізм і надзеі на перамены ў нашым грамадстве. З такім настроем пакідалі Цэнтральную бібліятэку ўдзельнікі прэзентацыі гістарычных кніг Уладзіміра Арлова і шчыра зычылі яму моцнага здароўя, мужнасці ў прапагандзе праўдзівае гісторыі нашай краіны. Паважаючы вялікія заслугі сп. Арлова ў развіцці беларускай гісторыі, а таксама яго талент і мужнасць у адраджэнцкай справе баранавіцкія сябры ўрачыста падаравалі яму на ўспамін аб творчых сустрэчах сапраўдны корд-кордзік з выяваю сланоў Ганібала і індыйскага цара Ашокі і надпісам "Уладзіміру Арлову – волату беларускай гісторыі ад баранавіцкіх сяброў. 2005".








*Віктар Сырыца*
*старшыня Баранавіцкай Рады ТБМ імя Францішка Скарыны.*



# Імёны, якія назаўсёды з намі

**Гучалі прозвішчы тых, каго ўжо няма на гэтым свеце. Але яны жывуць у нашай памяці. І будуць жыць, пакуль ёсць мы. Гэта было падкрэслена на вечарыне памяці памерлых (Дзядоў), праведзенай у Гародні. Спевы хору "Бацькаўшчына" напаўнялі сэрца тугой, аднаўлялі ў памяці вобразы кожнага, чыё імя было прыгадана выступоўцамі.**



Усе яны любілі Беларусь, родную мову. Старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны, пісьменнік Аляксей Пяткевіч звярнуўся да светлай памяці А. Луцкевіча, Цёткі, Я. Купалы, С. Рак-Міхайлоўскага, І. Дварчаніна, А. Смоліча, Я. Карскага, М. Доўнар-Запольскага, У. Караткевіча, Васіля Быкава, Васілька ды іншых. Гэтыя асобы пакінулі нязгасны свет у беларускай літаратуры, навуцы, мастацтве. Яны былі вялікімі жыццялюбамі. Аднак сталінізм вынес ім суровы і няўмольны прыгавор. Іх пераследавалі, знішчалі як "ворагаў народа", даводзілі да самазабойстваў...



Навуковец Мікола Таранда, інжынер К. Жынь, выкладчыца С. Іоська, Я. Петрашэвіч, А. Жукоўскі, У. Хільмановіч назвалі імёны З. Верас, М. Ткачова, С. Новіка-Пеюна, А. Сцяпуры, Н. Тарэлкінай, А. Міхальчыка, А. Жука, В. Гойдзя, У. Кісяля, Д. Кісяля, Р. Леаданскага, В. Шаўцова, А. Захарава, М. Радзюка, А. Карпюка, Я. Карміaльчыка, А.Чопчыца, Л.Зайца, А. Цыхуна, А. Шыдлоўскага, Л. Генію, Б. Ржэўскага, Ю. Сіткевіча...

Яны пакінулі гэты свет у розны час, але не праміільгнулі ніабачнымі зніачкамі. Сёння мы памятаем гэтых людзей, дзякуючы іх патрыятызму, беларускасці, любові на свайго беларускага народу, нястомнай працы на карысць Адраджэння.

Яны назаўсёды засталіся з намі – у памяці і сваімі справамі.

*Антон Лабовіч, Гародня.*

**На здымках:** не згаснуць свечкі памяці; працягу узгадвае мастак Зміцер Іваноўскі.

**Фота аўтара.**

# "Дзяды" на Віленшчыне

Напярэдадні "Дзядоў" сябры і актывісты ТБМ Віленшчыны ў фальварку Свіраны Віленскі р-н (Літва): правялі талаку і зрабілі наступнае:

- дабраўпарадкавалі тэрыторыю на радзіме Ф. Багушэвіча;
- пасадзілі 25 дрэўцаў;
- памаліліся і запалілі свечкі ля Крыжа, фігуры Маці Божай Свіранскай і Фігуры Святога Язэпа, які трымае на руках малютку Ісуса Хрыста.

У мерапрыемстве бралі ўдзел Гіль Юры, Андрусь Старавойтаў, Ёнес Лаўрыновічус і Алег Мінкін.

На заканчэнне талакі зрабілі невялікі абед з чаркай і скваркай ды памянулі Фр. Багушэвіча.



У засценку Вашунова, Докшыцкі р-н (Беларусь) ля "Засцянковай хаткі" напярэдадні "Дзядоў" устанавілі высокі бетонны Крыж свабоды. Цяпер тут ужо ёсць 4 крыжы.



Дабраўпарадкавалі тэрыторыю, пасадзілі дрэўцы. Запалілі свечкі і правялі малітву. "Засцянковая хатка" рыхтуецца да важнага мерапрыемства якое адбудзецца тут 1 ліпеня 2006 г. Сюды завітаюць паломнікі, якія будуць ісці ў Буцлаў, да Маці Божай Буцлаўскай.

"Засцянковая хатка" жыве і дзейнічае. Яна моцны асяродак Беларушчыны ў Докшыцкім раёне, на маей малой радзіме.

***Юры Гіль.***

# Ушанавалі памяць паўстанцаў

30 кастрычніка ў Сьвіслачы адбыўся чарговы Дзень памяці паўстанцаў 1863 году. Удзел у імпрэзе брала каля 80 чалавек з розных гарадоў і мястэчак Беларусі.

Спачатку ўдзельнікі наведалі магілу брата Кастуся Каліноўскага - Віктара, які быў ідэёлагам паўстання. Гэтую магілу каля 10 гадоў таму назад адшукалі і адрэстаўравалі. Гэтаксама былі ўскладзеныя кветкі ля помнікаў Кастусю Каліноўскаму і Рамуальду Траўгуту. Потым удзельнікі завіталі ў былы маёнтак Каліноўскіх Якушоўку, дзе раней быў усталяваны памятны крыж высокай мастацкай вартасці. На заканчэнне зладзілі маленькі канцэрт у лесе, дзе выступіў беларускі бард Зміцер Сідаровіч.

Не абышлося без эксцэсаў. На шляху да Свіслачы была затрыманая машына з берасцейцамі. На адну з затрыманых, Ірыну Лаўроўскую, ў мясцовым пастарунку быў складзены пратакол за выкарыстанне незарэгістраваных сімвалаў.

Гэта ўжо было дзесятае, юбілейнае, ушанаванне памяці паўстанцаў.

*Алеся Бяленік.*

# МУЗЕЙ "КАМЯНЕЦКАЯ ВЕЖА" ЗА ДВА МЕСЯЦЫ ПАСЛЯ РЭСТАЎРАЦЫІ НАВЕДАЛА БОЛЬШ ЗА СЕМ ТЫСЯЧ ЭКСКУРСАНТАЎ

Больш за сем тысяч чалавек наведалі музей "Камянецкая вежа", адкрыты 1 верасня ў Камянцы пасля завяршэння рэстаўрацыйных работ.

Як паведамілі БелаПАН у музеі, з яго абноўленымі экспазіцыямі азнаёміліся турысты з усіх рэгіёнаў Беларусі, а таксама з Польшчы, Германіі, ЗША, Бельгіі і Расіі. Калі ў дарослых наведвальнікаў асаблівую цікавасць выклікаюць рарытэты, знойдзеныя падчас арэхеалагічных раскопак у Камянецкім раёне, то ў дзяцей — выстава зброі і даспехаў сярэднявечча з абласнога краязнаўчага музея, карты-схемы, муляжы з вайсковым адзеннем.

**Ларыса ШЫГАНАВА, БелаПАН.**

# У В А Г А !

**Сустрэчы ў сядзібе ТБМ:**

**10 лістапада ў 18.00.** Л. Дзіцэвіч. Як жыць лепей ва ўмовах эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне.

**18 лістапада ў 18.00.** М. Чарняўскі. Захаванне і вывучэнне помнікаў гісторыі і культуры.

**22 лістапада ў 18.00.** У. Арлоў. Гістарычныя ваколіцы. Вандроўкі ў прасторы і часе.

**22 лістапада ў 19.30.** А. Анісім. Як стварыць суполку ТБМ.





# ЛЕКСІКА КОЛЕРУ І СВЯТЛА Ў МАСТАЦКІМ ТЭКСЦЕ

Колер здаўна цікавіў чалавека. Яшчэ першабытны жыхар нашай планеты выразна размяжоўваў светлыя і цёмныя фарбы, цёплыя і халодныя адценні, імкнучыся зразумець, чаму трава, напрыклад, зялёнага колеру, агонь мае нешта ад чырвонага і жоўтага, а ноч заўжды здаецца чорнай. Не заўсёды знаходзячы адказы на падобныя пытанні, людзі надавалі колерам магічную сілу, верылі, што тая ці іншая фарба здольная паўплываць на жыццё: дапамагчы падчас палявання, засцерагчы ад хваробаў ці злых духаў.

Ужо ў глыбокай старажытнасці рабіліся спробы зразумець прыроду колеру, асэнсаваць яго сімволіку, даць тлумачэнне тым ці іншым асацыяцыям. Так Геракліт, Платон, Арыстоцель у сваіх працах далі філасофскую ацэнку колеру, асаблівасцям яго функцыянавання ў грамадстве. Пазней колер стаў аб'ектам сур'ёзнага даследавання самых розных галін чалавечай дзейнасці: фізікі, мастацтвазнаўства, літаратуразнаўства, псіхалогіі, лінгвістыкі.

У кожным мастацкім тэксце з большай або меншай частотнасцю выкарыстоўваецца лексіка са значэннем колеру і святла. І звычайна гэта не проста ўказанне на пэўную афарбоўку прадмета, а нейкі матацкі вобраз, сімвал, дадатковая інфармацыя. Трэба толькі навучыцца правільна разумець тэкст. Бачыць тое, што, можа, не сказана непасрэдна, а толькі абазначана, зашыфравана. Таму вывучэнне спецыфікі функцыянавання колеравай і светлавой лексікі ў мастацкім радку дапамагае ў больш глыбокім асэнсаванні ўсяго твора, аўтарскай ідэі і задумы.

У сучаснай лінгвістычнай навуцы адной з актуальных і прыярытэтных з'яўляецца праблема колераабазначэння мастацкага тэксту. Даследаванне сістэмы колераабазначэння многімі замежнымі і некаторымі айчыннымі навукоўцамі дазваляе меркаваць, што ў апошнія гады акрэслівацца новы кірунак у мовазнаўстве, які можна ахарактарызаваць паняццем "лексічная каларыстыка". Колеравая і светлавая лексіка валодае істотным семантычным, сінтагматычным і выяўленчым патэнцыялам, мае вялікае значэнне ў плане адлюстравання пэўных фрагментаў моўнай карціны свету мастака і забеспячэння эстэтычнага дыялогу паміж пісьменнікам і чытачом. Аналіз колераабазначэнняў дае магчымасць вызначыць асаблівасці ўжывання ў мастацкім тэксце адпаведных фарбаў, характар асацыятыўных сувязяў, якія пры гэтым узнікаюць.

Катэгорыя колеру і святла звязана з псіхічнай і эмацыянальнай сферай пісьменніка, глыбіннімі тэкставымі мікраструктурамі. Каларыстычная лексіка, будучы пэўнай знакавай сістэмай, выступае ў мастацкім тэксце як своеасаблівая вербальна-эстэтычная парадыгма, што адлюстроўвае спецыфіку аўтарскага светаўспрымання. Аналіз колеру ў літаратурным творы дапамагае лепш зразумець і асобу аўтара, і найдрабнейшыя дэталі тэксту. Таму на ўроках літаратуры, вывучаючы творы школьнай праграмы, варта акцэнтаваць увагу вучняў на лексіцы са значэннем колеру і святла, на яе істотным вобразным патэнцыяле.

### Пра некаторыя аспекты тэрміналогіі колераабазначэння

У любым літаратурным творы ў той ці іншай ступені выкарыстоўваецца колеравая і светлавая лексіка, якая валодае істотным семантычным, сінтагматычным і канатацыйным патэнцыялам.

Распрацоўка праблемы колера-святлоабазначэння патрабуе адпаведнай тэрміналогіі, якая забяспечвала б шматаспектнае даследаванне згаданых моўных адзінак.

Беларуская каларыстычная тэрміналогія практычна нераспрацаваная. Нягледзячы на тое, што ў замежным (у першую чаргу, расійскім) мовазнаўстве праблема колераабазначэння атрымала дастаткова шырокае асвятленне, пытанні адпаведнай тэрміналогіі і там вырашаюцца толькі часткова. Верагодна, таму, што даследаванні праводзяцца, як правіла, з пункту гледжання традыцыйных інтралінгвістычных аспектаў.

Пры экстралінгвістычным аналізе ўзнікае неабходнасць у шырокім коле тэрмінаў, якія дазволілі б максімальна поўна апісаць сістэму колераабазначэння пэўнага твора.

Сёння для намінацыі лексікі са значэннем колеру адны навукоўцы ўжываюць тэрмін «колераабазначэнне» («цветообозначение»), іншыя—«колеравыя словы» («цветовые слова»). Можна пагадзіцца з існаваннем абодвух паняццяў, хоць яны і не зусім адпавядаюць традыцыям лінгвістычнай тэрміналогіі. На наш погляд, для намінацыі лексікі са значэннем колеру можа быць выкарыстаны тэрмін «каларонім», а светлавой лексікі—»люксонім» (параўн.: сінонім, антонім, гіпонім і г. д.). Першы з прапанаваных тэрмінаў паходзіць ад лацінскага «color», таму няма неабходнасці больш падрабязна спыняцца на яго этымалогіі. Гэтым тэрмінам мэтазгодна абазначаць усе словы з колеравым значэннем (**белы, чырвоны, сіне-зялёны, чарнаваты, жоўценькі, блакіт** і г. д.). Другі з тэрмінаў паходзіць з лацінскага «lux», якое азначае «святло». Паводле свайго гукавога складу гэты корань—найбольш зручная база для ўтварэння адпаведнага тэрміна. Тут няма ніякай супярэчнасці з тэрміналагічнай традыцыяй у лінгвістыцы. Словам «люксонім» могуць быць названы лексемы, што маюць значэнне наяўнасці або адсутнасці святла (**светлы, бліскучы, зіхатлівы, яснага, цемень, змрок** і г. д.). Такім чынам, усе словы, што абазначаюць колер і святло,—гэта адпаведна каларонімы і люксонімы. Для характарыстыкі паўнаты колеру ў каларыстыцы існуе паняцце «колеравы тон», які азначае «якасць колеру, што дазваляе даць яму пэўную назву» (Л. Міронава). Напрыклад, прыметнікі «**сіні**», «**зялёны**» маюць поўны колеравы тон, а вытворныя ад іх—"**сіняваты**", "**зеленаваты**"—няпоўны, бо ўжываюцца са значэннем "крыху, злёгку сіні", "крыху, злёгку зялёны". Колеравым тонам вызначаюцца толькі храматычныя, спектральныя каларонімы. Ступені колератону могуць адвольна вар'іравацца ў мастацкім тэксце ў залежнасці ад індывідуальна-аўтарскіх асаблівасцяў, светаўспрымання пісьменніка.

Ахраматычныя каларонімы «**чорны, «белы»**, «**шэры**» і люксонімы характарызуюцца «светлавой насычанасцю»—ступенню адрознення ахраматычнага колеру ці святла ад абсалютнай цемнаты. Узровень светлавой насычанасці таксама можа адвольна вар'іравацца ў залежнасці ад вырашаемых аўтарам мастацкіх задач. Тэрміны «тон» і «насычанасць» шырока выкарыстоўваюцца і ў мастацтвазнаўстве, але адзінай іх трактоўкі спецыялістамі не існуе. Найбольш блізкае да лінгвістычнага аспекту тлумачэнне «тону» даў вядомы расійскі мастак М. Крымаў, які пад «тонам» разумеў «розніцу ў адценнях адной і той жа фарбы, што адрозніваюцца сваёй інтэнсіўнасцю».

«Насычанасць», на думку вядомага даследчыка Р. Івенса, «апісваецца словамі «цьмяны», «бледны», «слабы» або «моцны».

У большасці мастацкіх тэкстаў сустракаюцца колеравыя кампазіты—складаныя словы, якія абазначаюць розныя адценні таго ці іншага колеру: жоўта-чырвоны, ружова-сіні, зеленавата-белы і г. д. Яны адыгрываюць істотную ролю ў літаратурным творы, паколькі служаць сродкам мастацкай дэталізацыі і выразнасці. Неабходна выразна размяжоўваць асноўныя (ядзерныя) каларонімы і лексемы, што ў той ці іншай ступені абазначаюць іх адценні з'яўляюцца ў пэўным сэнсе перыферыйнымі. Семантычная дамінанта кампазітаў можа быць названа «колеравым кодам», а ўсе перыферыйныя кампаненты—»элементамі» дадзенага колеракода. Напрыклад, колеракод «**чырвоны**» аб'ядноўвае колераэлементы «**барвовы**» (густачырвоны, пурпуровы), «**румяны**» (ярка-чырвоны), «**ружовы**» (светла-чырвоны) і інш. Колеракод «**жоўты**» ўключае элементы «**залаты**» (бліскуча-жоўты), «**карычневы**» (буравата-жоўты), «**рыжы**» (чырвона-жоўты) і г. д. Паняцце «колеракод» фактычна тоеснае паняццю «мікраполе».

Такая класіфікацыя дазваляе з большай эфектыўнасцю даследаваць структурна-семантычны аспект каларонімa.

Важнае значэнне для разумення спецыфікі аўтарскага светабачання мае з'ява «колеравай індукцыі». Колеравая індукцыя, паводле Л. Міронавай,—гэта «змяненне характарыстыкі аднаго колеру пад уплывам суіснавання іншага або ўзаемны ўплыў колераў». Як правіла, колеравая індукцыя мае месца пры ўжыванні розных каларонімаў у межах аднаго сказа (страфы): *Вясёлыя палянкі абводзіліся аправаю* ***пышна-зялёных*** *хвойнікаў на* ***жоўценькім*** *пясочку*. Разнавіднасцю колеравай індукцыі можна лічыць «колеравую гармонію» і «колеравую дысгармонію». Колеравая гармонія—гэта камбінацыя пэўных колераў, якія ў сукупнасці рэалізуюць станоўчую эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку. Адпаведна дысгармонія—спалучэнне колераў, што выяўляюць адмоўную канатацыю.

Вялікую ролю ў сістэме колераабазначэння мастацкага твора адыгрывае прыём «колеравага кантрасту». Гэта матываваная канцэнтрацыя супрацьлеглых па сваёй семантыцы каларонімаў у межах мікракантэксту. У залежнасці ад характару кампанентаў кантраст можа быць класіфікаваны на некалькі тыпаў: колеравы, колера-светлавы, светлавы.

Эстэтычныя погляды пісьменніка ў значнай меры ілюструюць т. зв. «няўласныя якасці колеру» (НЯК), якія выкарыстоўваюцца ў творы. Пад НЯК трэба разумець тэрмічную, аптычную, акустычную і іншыя характарыстыкі колеру: цёплы—халодны, блізкі—далёкі, глухі—звонкі і г. д. Так, у навуковай літаратуры па колеразнаўству прынята лічыць цёплымі жоўты, аранжавы і чырвоны, а халоднымі—астатнія спектральныя колеры. Найбольш блізкім уяўляецца белы, а далёкім—сіні колер (Г.Цойгнер). Як глухі, паводле А. Зайцава, успрымаецца, напрыклад, карычневы, а як звонкі—яркачырвоны.

З колеравай эстэтыкай цесна звязана паняцце «колеравай сімволікі». Практычна за кожным колерам замацавалася пэўнае сімвалічнае значэнне. Залаты колер, як правіла, не мае адмоўных асацыяцый, а ілюструе звычайна нешта станоўчае, радаснае, узнёслае. Чорны ж, наадварот, сімвалізуе зло, пакуты, няшчасце. Аднак колеравыя сімвалы могуць змяняць свой характар у залежнасці ад светапогляду, творчай манеры пісьменніка. Менавіта праз сімволіку колеру, на думку І. Маца, «выяўляецца не толькі ўмоўна-эстэтычная, але і светапоглядная выразнасць».

Такім чынам, разгледжаныя вышэй тэрміны і паняцці з розных бакоў характарызуюць сістэму колера-і святлоабазначэння мастацкага твора. Некаторыя з гэтых тэрмінаў выкарыстоўваюцца найперш у мастацтвазнаўстве («колеравы тон», «насычанасць», «колеравая гармонія» і інш.). Аднак з улікам спецыфікі прадмета даследавання значэнне каларыстычных паняццяў у лінгвістыцы не заўсёды супадае з іх значэннем пры аналізе, напрыклад, твораў жывапісу.

Іншыя тэрміны («каларонім», «люксонім», «колеравы код», «элемент колеравага кода») прапануюцца ў якасці ўласналінгвістычных.

Каларыстычная тэрміналогія можа быць выкарыстана ў розных галінах мовазнаўства: этналінгвістыцы, тэралінгвістыцы, псіхалінгвістыцы, а асобныя з тэрмінаў—у літаратуразнаўстве і культуралогіі.

Як вядома, аб'ектыўныя моўныя з'явы адлюстроўваюцца не толькі ў якасных, але і ў колькасных характарыстыках. Таму побач з традыцыйнымі, уласналінгвістычнымі метадамі даследавання лексікі прымяняецца і метад статыстычны, які дазваляе выявіць частотнасць выкарыстання ў мастацкім тэксце пэўнай лексічнай адзінкі, паказаць высокую або, наадварот, нізкую ўжывальнасць адпаведнай лексемы. Гэта вельмі важна, паколькі «больш частотныя з'явы або элементы ўяўляюцца заўсёды менш нечаканымі і ў выніку гэтага менш інфармацыйнымі, і наадварот, з'явы рэдкія, малачастотныя валодаюць меншай верагоднасцю іх сустракальнасці таму служаць носьбітамі большай інфармацыі ў параўнанні з высокачастотнымі з'явамі» (Б. Плотнікаў). Гэта значыць, што колькасная характарыстыка прымушае адразу засяродзіць увагу на найбольш ці найменш частотных лексемах, на іх не толькі выяўленчай, але і інфармацыйнай функцыі. «Без прымянення колькасных характарыстык, статыстычных метадаў,—адзначае Н. Мажэйка,—тлумачэнне функцыянавання шэрагу моўных катэгорый, падпарадкаваных заканамернасцям статыстычнага парадку, аказваецца немагчымым». Такім заканамернасцям падпарадкоўваецца так ці інакш кожная лексічная адзінка ў мастацкім тэксце.

**Частотнасць каларонімаў у мове твораў Якуба Коласа, іх падзел паводле прыналежнасці да пэўных часцін мовы**

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Каларонім** | **Кольк. ужыван.** | **прым.** | **наз.** | **дзеясл.** | **дзеепр.** | **дзее-прысл.** | **прысл.** |
| Белы | 996 | 811 | 57 | 87 | 14 | 11 | 16 |
| Чырвоны | 978 | 752 | 115 | 84 | 6 | 4 | 12 |
| Чорны | 709 | 581 | 14 | 78 | 18 | 3 | 15 |
| Зялёны | 523 | 403 | 28 | 66 | 8 | — | 16 |
| Сіні | 472 | 334 | 96 | 31 | 6 | — | 5 |
| Жоўты | 245 | 158 | 5 | 54 | 18 | 3 | 7 |
| Залаты | 189 | 116 | 52 | 11 | 10 | 3 | — |
| Шэры | 163 | 135 | 2 | 14 | 8 | — | 4 |
| Срэбраны | 137 | 68 | 64 | 5 | — | — | — |
| Рыжы | 114 | 92 | 6 | 4 | 12 | — | — |
| Сівы | 112 | 90 | 6 | 11 | 11 | — | — |
| Бледны | 92 | 36 | 6 | 24 | 14 | — | 12 |
| Ружовы | 79 | 62 | 2 | 8 | 7 | — | — |
| Руды | 65 | 28 | 19 | 5 | 8 | — | — |
| Блакітны | 44 | 32 | 12 | — | — | — | — |
| Румяны | 36 | 15 | 14 | 7 | — | — | — |
| Багровы | 35 | 19 | 16 | — | — | — | — |
| Агнявы | 29 | 29 | — | — | — | — | — |
| Русы | 19 | 19 | — | — | — | — | — |
| Дымны | 19 | 19 | — | — | — | — | — |
| Аксамітны | 19 | 14 | 5 | — | — | — | — |
| Брыльянцісты | 17 | 11 | 6 | — | — | — | — |
| Дыяментны | 16 | 12 | 4 | — | — | — | — |
| Крывавы | 14 | 14 | — | — | — | — | — |
| Руны | 11 | 6 | — | 5 | — | — | — |
| Лазурны | 7 | 4 | 3 | — | — | — | — |
| Каштанавы | 4 | 4 | — | — | — | — | — |
| Малінавы | 3 | 3 | — | — | — | — | — |
| Кары | 2 | 2 | — | — | — | — | — |
| Бурштынавы | 1 | — | 1 | — | — | — | — |
| Смуглы | 21 | 19 | 2 | — | — | — | — |
| Загарэлы | 16 | 10 | 3 | 3 | — | — | — |
| Чырвенны | 8 | 8 | — | — | — | — | — |
| Званковы | 6 | 6 | — | — | — | — | — |
| Храстовы | 2 | 2 | — | — | — | — | — |
| Буланы | 2 | 2 | — | — | — | — | — |
| Вараны | 2 | 2 | — | — | — | — | — |

# ЛЕКСІКА КОЛЕРУ І СВЯТЛА Ў МАСТАЦКІМ ТЭКСЦЕ

**Частотнасць люксонімаў, іх падзел паводле прыналежнасці да пэўных часцін мовы**

| Люксонім | Кольк. ужыван. | Прым. | Наз. | Дзеясл. | Дзеепр. | Дзее-прысл. | Прысл. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Цёмны | 1026 | 598 | 116 | 114 | 34 | 18 | 146 |
| Светлы | 987 | 328 | 281 | 313 | 4 | 3 | 58 |
| Бліскучы | 563 | 157 | 182 | 211 | — | 4 | 9 |
| Ясны | 415 | 316 | 16 | 49 | 3 | 2 | 29 |
| Змрок | 272 | 67 | 172 | 13 | 4 | — | 16 |
| Ззянне | 180 | 22 | 47 | 95 | — | 12 | 4 |
| Яркі | 101 | 79 | 3 | — | — | — | 19 |
| Блеклы | 77 | 38 | 3 | 26 | 4 | — | 6 |
| Віднецца | 41 | — | — | 36 | 2 | — | 3 |
| Іскрыцца | 40 | 8 | 4 | 28 | — | — | — |
| Пераліваецца | 30 | 6 | 8 | 11 | — | 5 | — |
| Агністы | 23 | 23 | — | — | — | — | — |
| Вечарэць | 19 | — | — | 19 | — | — | — |
| Тусклы | 15 | 7 | — | 2 | 2 | — | 4 |
| Зыркі | 12 | 12 | — | — | — | — | — |
| Ірдзіцца | 11 | —. | 2 | 9 | — | — | — |
| Мільгаць | 4 | — | — | 4 | — | — | — |

Як бачна з табліц, колеравая і светлавая лексіка з'яўляецца істотным кампанентам у мове коласаўскіх твораў. Статыстычны аналіз дае магчымасць выявіць не толькі фармальную частотнасць ужывання пэўнага калароніма або люксоніма, але і дазваляе гаварыць пра іх сінтагматычны патэнцыял. У гэтым сэнсе ўяўляецца важным меркаванне А. Супруна, што «значэнне канкрэтнага слова можа быць вызначана праз яго адносіны да іншых слоў. Лінгвістычнае даследаванне значэнняў павінна абавязкова ўлічваць семантычныя адносіны паміж словамі, якія складаюць слоўнік дадзенай мовы». Частотнасць ужывання пэўных колеравых і светлавых лексем дае падставы для характарыстыкі аўтарскіх асаблівасцяў бачання свету ў фарбах, вызначэння колеравых густаў і эстэтычных поглядаў пісьменніка. Гэта, у сваю чаргу, ілюструе спецыфіку яго творчай манеры і светаўспрымання ўвогуле.

Пры статыстычным аналізе ўсёй выяўленай у творах Я. Коласа колеравай і светлавой лексікі ўвага акцэнтуецца на агульнай колькасці каларонімаў і люксонімаў; колькасці каларонімаў; колькасці люксонімаў; частотнасці ўжывання кожнага калароніма і люксоніма; прыналежнасці каларонімаў і люксонімаў да пэўных часцін мовы; вызначэнні колеравага і светлавога ліку і агульнага колера-светлавога ліку.

У творах Я. Коласа адзначана 9019 ужыванняў розных лексічных адзінак са значэннем колеру і святла. Сюды ўключаны і лексемы з пераносным, метафарычным значэннем.

Выяўлена 5208 ужыванняў каларонімаў. З іх 5147 рэалізуюць «чыстыя», уласнаколеравыя семы. Астатнія аб'яднаны ў дзве невялікія падгрупы: каларонімы са значэннем масці картаў (чырвенны, званковы, храстовы), масці жывёл (буланы, вараны) і лексемы, што характарызуюць колер скуры чалавека (смуглы, загарэлы).

Сярод уласнаколеравых слоў вылучана група каларонімаў, якія абазначаюць колер апасродкавана, на аснове асацыятыўнасці (дымны, аксамітны, брыльянцісты, дыяментны, агнявы, рунны, малінавы, каштанавы і інш.). Іх колер лёгка вызначаецца праз супастаўленне з адпаведна афарбаванымі рэаліямі: дымны— колеру дыму, аксамітны—колеру аксаміту, агнявы—колеру агню і да т.п.

Найбольшай частотнасцю вызначаюцца белы і чырвоны—спрадвечныя колеры нашага этнасу. Менавіта гэтыя фарбы з'яўляюцца асноўнымі ў нацыянальным адзенні беларусаў, прысутнічаюць як асноўныя ў іх звычаях і абрадах.

Трэці паводле колькасці ўжывання—чорны колер. Згаданыя тры колеры, як вядома, служаць своеасаблівым сусветным колеравым кодам.

Каларонімы «белы» і «чырвоны» ў шэрагу выпадкаў рэалізуюць т. зв. «пасіўную схему». Гэта датычыцца ў асноўным слоў «чырвонаармеец,», «белапаляк», «Беларусь», дзе першая частка складаных лексем непасрэдна не характарызуе колеравую прымету. Аднак, з пункту гледжання развіцця асацыятыўных сувязяў, у дадзеных выпадках колеравая прымета можа лічыцца апрыёрнай.

Большасць каларонімаў рэпрэзентавана прыметнікамі. Гэта звязана з тым, што колеравыя лексемы выкарыстоўваюцца Коласам пераважна ў сваім звычайным граматычным афармленні: колеравая прымета рэалізуецца праз прыметнікі. Акрамя таго, стылістычнае ўжыванне прыметнікаў увогуле тлумачыцца «агульнымі ўласцівасцямі гэтай часціны мовы, якія даюць магчымасць выражаць самыя разнастайныя па сваёй эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўцы прыметы і якасныя рысы прадметаў і з'яў» (А. Юрэвіч). Канатацыйныя асаблівасці каларонімаў-прыметнікаў выяўляюцца, у першую чаргу, праз дастаткова частае ўжыванне формы суб'ектыўнай ацэнкі (бялюткі, чырвоненькі, зелянюсенькі і інш.).

Другое месца паводле частотнасці займаюць назоўнікі. Сюды аднесены і каларонімы-назоўнікі, што выяўляюць пасіўную колеравую схему (Беларусь, белапаляк, чырвонаармеец), а таксама шэраг субстантываваных слоў з колеравай прыметай (чырвоны, рыжы). Улічваючы спецыфіку аналізаванай лексікі, высокая частотнасць назоўнікаў можа быць растлумачана індывідуальна-аўтарскім падыходам да інтэрпрэтацыі семантыкі каларонімаў. Бо назоўнікі «звычайна выкарыстоўваюцца як галоўны сродак перадачы статычных з'яў рэчаіснасці» (А. Юрэвіч). Колеравая ж прымета наўрад ці можа лічыцца ў агульнапрынятым разуменні статычнай з'явай. 3 іншага боку, каларонімы-назоўнікі рэалізуюць т. зв. апрадмечаную прымету, адначасова называючы рэалію і яе афарбоўку (чырвань, золата, сінь і г. д.).

Можна сцвярджаць, што назоўнікі-каларонімы і дзеясловы-каларонімы прыкладна з аднолькавай частотнасцю выкарыстаны Коласам. Аднак, у адрозненне ад назоўнікаў, дзеясловы са значэннем колеру маюць больш шырокія спалучальныя магчымасці, валодаюць большым выяўленчым патэнцыялам. «У мастацкай мове галоўнае—гэта дзеяслоў... Знайсці правільны дзеяслоў для фразы—гэта значыць даць рух фразе»,—сцвярджае А. Талстой. Да таго ж дзеяслоў, як вядома, «багаты разнастайнымі семантыка-стылістычнымі адценнямі. Гэта тлумачыцца, з аднаго боку, шырока развітай сінанімія й слоў, якія абазначаюць дзеянне, з другога—вялікай колькасцю граматычных катэгорый і форм дзеяслова, часта сэнсава вельмі блізкіх» (А. Юрэвіч). Дадзеная заўвага справядлівая і ў дачыненні да дзеясловаў-каларонімаў. Напрыклад, дзеясловы «зелянець» і «рунець», «баграверць» і «чырванець» успрымаюцца як сінанімічныя, і Коласам эфектыўна выкарыстоўваецца семантычны патэнцыял колеравых слоў гэтай часціны мовы.

Дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі з колеравым значэннем з рознай частотнасцю ўжываюцца пісьменнікам. Выяўляецца дастаткова прадуктыўны характар каларонімаў-дзеепрыметнікаў і адносна невысокая частотнасць адзначаных у мастацкіх тэкстах каларонімаў-дзеепрыслоўяў. Гэта тлумачыцца, у першую чаргу, семантыка-стылістычнымі ўласцівасцямі абедзвюх дзеяслоўных форм. Найбольш часта дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі з колеравым значэннем сустракаюцца пры пейзажных замалёўках або пры характарыстыцы псіхаэмацыянальнага стану персанажа.

Каларонімы-прыслоўі ілюструюць пераважна стан прыроды ў пэўны час. Як выключэнне можна лічыць выкарыстанне колеравай лексемы «чорна», якая ў адпаведных дыстрыбуцыйных умовах выяўляе сімвалічнае значэнне безнадзейнасці, гора, ліха.

Для больш выразнай карціны ўжывання каларонімаў неабходна вызначыць колеравы лік (К) твораў Коласа. Гэта велічыня ўпершыню была ўведзена ў навуковы ўжытак расійскім лінгвістам С. Салаўёвым і вылічваецца паводле формулы:

$$\frac{\text{колькасць выкарыстаных каларонімаў}}{\text{колькасць друкаваных аркушаў}}$$

Агульная колькасць выкарыстаных Коласам каларонімаў—5208. Агульная колькасць друкаваных аркушаў—267,5. Колеравы лік роўны 19,5.

Светлавая лексіка коласаўскіх твораў рэпрэзентавана 3816 моўнымі адзінкамі. Гэта дастаткова высокая колькасць, бо зафіксавана ўсяго семнаццаць найменняў розных люксонімаў. 3 іншага боку, такая разнастайнасць слоў-дамінантаў са значэннем святла гаворыць пра актыўнае выкарыстанне семантычнага патэнцыялу гэтай групы лексікі.

Найбольшай частотнасцю вызначаюцца антанімічныя люксонімы «цёмны» і «светлы». «Святло і цемра—гэта, паводле біблейскіх міфаў, найбольш важныя сімвалы супярэчлівасцяў быцця, яго глыбінных таямніц і знамянальных пераходаў» (В.Максімовіч). Адсюль вынікае, што паняцці «святла» і «цемры» маюць трансцэндэнтальны характар. Таму дадзеныя люксонімы знаходзяцца ў мастацкіх тэкстах у адносінах узаемнай інфільтрацыі, г. зн. наяўнасць у вертыкальным кантэксце аднаго з іх абумоўлівае ўжыванне другога. Верагодна, гэтым можа тлумачыцца дастаткова частае выкарыстанне Коласам прыёму светлавога кантрасту, пабудаванага на аснове адзначаных люксонімаў.

Сярод іншых люксонімаў варта згадаць словы «бліскучы», «ясны», «змрок» і «ззянне», якія таксама вызначаюцца высокай частотнасцю. Яны характарызуюць розныя ступені праяўлення святла і маюць у творах розны сінтагматычны патэнцыял. Светлавыя лексемы «бліскучы» і «ясны» валодаюць большымі спалучальнымі магчымасцямі ў параўнанні з люксонімамі «змрок» і «ззянне», якія выяўляюць пераважна прамое значэнне.

Асобна неабходна адзначыць дастаткова частае ўжыванне лексемы «пераліваецца», якая рэалізуе значэнні «блішчаць, ззяць, адсвечваць, змяняючы адценні, колеры». Аўтар уводзіць у кантэкст згаданы люксонім пераважна пры характарыстыцы вынікаў уздзеяння святла першакрыніцы, каб паказаць усю яго чысціню і прыгажосць. Гэта святлоабазначэнне з'яўляецца істотным кампанентам коласаўскай светлавой эстэтыкі.

Сярод часцін мовы вылучаюцца люксонімы-прыметнікі. Выступаючы ў ролі атрыбута, светлавыя прыметнікі не толькі фармальна канкрэтызуюць назоўнік, але і ў большасці выпадкаў дадаюць значную долю мастацкай вартасці апісанаму. У гэтым сэнсе важнай бачыцца заўвага Я. Парандоўскага, што нельга лічыць, быццам у азначэннях «тыя самыя прыметнікі цягнуцца, як цень, за сваімі звыклымі назоўнікамі». Кожны такі люксонім ужываецца аўтарам па-свойму адметна.

Светлавыя прыметнікі выкарыстоўваюцца Коласам пераважна пры пейзажных замалёўках і партрэтнай характарыстыцы персанажа.

Люксонімы-дзеясловы дазваляюць найбольш дакладна перадаць дынамізм рэалізацыі светлавой прыметы. Паказальна, што пры агульнай перавазе светлавых лексем з дамінантай «цёмны», дзеяслоў «святлець» і аднакаранёвыя з ім словы ўжыты пісьменнікам нашмат часцей. Гэта ў пэўнай ступені можа сведчыць пра агульны станоўчы эмацыянальны фон, які ствараецца дадзенымі дзеясловамі-люксонімамі.

Побач з лексемай «святлець» высокую частотнасць мае і светлавы дзеяслоў «блішчаць», які характарызуе, у першую чаргу, святло першакрыніцы або святло адлюстраванае. Дадзены люксонім таксама займае важнае месца ў коласаўскай светлавой эстэтыцы.

Значна менш частотныя і разнастайныя светлавыя дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі. Яны ўжываюцца аўтарам пераважна пры апісанні псіхічнага стану персанажаў, а таксама пры пейзажных замалёўках.

У адрозненне ад люксонімаў-дзеепрыметнікаў і люксонімаў-дзеепрыслоўяў Колас дастаткова актыўна выкарыстоўвае семантычны патэнцыял прыслоўяў са значэннем святла. Яны з'яўляюцца істотным элементам пры апісанні прыродных з'яў, пры характарыстыцы псіхічнага стану герояў. Звяртае на сябе ўвагу даволі высокая частотнасць люксоніма «цёмна» і аднакаранёвых з ім слоў.

Па аналогіі з паняццем «колеравы лік» мэтазгодна ўвесці тэрміны «светлавы лік» (С) і «колера-светлавы лік» (К-С).

Агульная колькасць люксонімаў ў творах Коласа—3816. Агульная колькасць друкаваных аркушаў—267,5. Светлавы лік (С) роўны 14,2; колера-светлавы (К-С)—33,7.

Усе адзначаныя велічыні сведчаць пра надзвычай важную ролю колеравай і светлавой лексікі ў коласаўскіх творах. І колеравы, і светлавы лікі разглядаюцца як высокія (параўн.: паводле нашых даследаванняў колеравы лік твораў Я. Купалы—15,6; светлавы—11,5; у творах М. Багдановіча адпаведна 14,4; 10,6).

Коласам выкарыстана 37 найменняў каларонімаў і 17—люксонімаў. У творах Я. Купалы, напрыклад, намі адзначана 26 найменняў колеравай лексікі і 12—светлавой. У творах М. Багдановіча—адпаведна 18 і 8. Аднак гэтыя лічбы трэба разглядаць з пэўнай доляй умоўнасці, таму што колькасць напісаных твораў у розных аўтараў неаднолькавая.

Параўнанне частотнасці колеравай і светлавой лексікі ў творах Коласа і ў творах Купалы і Багдановіча сведчыць пра тое, што класікі беларускай літаратуры надаюць вялікую ўвагу згаданым групам слоў. Аднак колькасць выкарыстаных колера-святлоабазначэнняў у Коласа вышэйшая, што ў значнай меры характарызуе асаблівасці светаўспрымання пісьменніка, спецыфіку яго творчай манеры.

*Юрась Бабіч,*
*Віцебск.*

# ДАСЛЕДЧЫК МАМАНТАЎ З ЛІДЧЫНЫ

У № 17 часопіса "Zeslaniec" за 2004 год быў змешчаны артыкул З. Вуйціка "Polscy badacze geologii Syberii", дзе між іншым паведамлялася, што "аднаго з Гданьскіх прыродазнаўцаў у 1716 г. цар Пётр I прызначыў да кіраўніцтва навуковаю выправаю па еўрапейскай і азіяцкай частцы Расіі. Гэта быў Даніл Месершмідт, выбітны даследчык, але аднакасова навукова трагічная постаць. На пачатку 1724 г. ён дабраўся да Іркуцка, дзе атрымаў прадпісанне вывучыць рэшткі маманта знойдзенага на Індзігірцы. Дык вось, скарыстаўшы, зручны выпадак, ён выслаў на месца знаходкі лекара Міхала Валаховіча, (Michala Wollochowicza), які знаходзіўся ў няволі. "Гэты ж, закончыўшы выправу поспехам, прывёз, разам з рэчавым вопісам жывёліны, пакрытую поўсцю ейную шкуру". Пры гэтым зацемка спасылаецца на наступную крыніцу: А. Н. Иванов. "Из истории открытия трупов плейстоценовых животных. Сведения поляка М. Волоховича (1724) о находке шкуры на Индигирке" – "Dzieje polskich, rosyjskish badan polarnych. Materialy 111 sympozjum polsko-radzieckiego. Z historii nauk o ziemi. Wroctaw 25-30 wresnia 1978 r. (Wr. - W-wa. - Kr. -Gd. - t., 1982, s.445-452.), дзе А. Іваноў далей падае наступнае: "Зацікаўлены намі асобай М. Валаховіча (Волоховича) супрацоўнік Музея Зямлі ПАН З. Вуйцік на аснове старапольскіх матэрыялаў выявіў, што Валаховічы жылі ў 1700 г. **ў вёсцы Валаховічы Лідскай воласці** ў паўночна-ўсходняй частцы Польшчы*. Бліжэйшая вышэйшая навучальная установа знаходзілася ў Вільні. Па меркаванні З. Вуйціка М. Валаховіч мог быць лекарам пры якойсьці залозе. Аднак, як выявілася, у даўняй Віленскай Акадэміі на пачатку XVIII ст. меліся толькі багаслоўскі ды юрыдычны факультэты. Пагэтаму віленскі геолаг А. Грыгаліс выказаў меркаванне, што М. Валаховіч мог быць слухачом Акадэміі па багаслоўскаму факультэту і ў войскаў апынуўся ў якасьці служкі культу" (стар. 449). У сваіх дзённіках Даніл Готліб Месершмідт адзначае, што М. Валаховіч быў палонны паляк ("Michael Wolochowicz, ein gefangener Pole"), які ў Іркуцку чакаў вызвалення ад выгнання праз пасярэдніцтва "Podstolpe Sinickin" (Meserschmidt D. G. "Forschungreise durch Sibirien 1720 – 1727". Teil 2. "Tagebuchufzeichnungen Januar 1723 - Mai 1724", Berlin, 1964. s. 209.) Як вядома Сяніцкія гербу Боньча, якія з XVI ст. вызначалі кальвінізм, свой род выводзілі з Сенніцы Краснастаўскага павету Бэлзскага ваяводства (Чырвоная Русь). Два сыны Мікалая Сяніцкага – Павел, падстолі Бускі (зараз Буск знаходзіцца на Львоўскай вобласці Украіны) ды Веспасіян выехалі на службу ў ВКЛ і там былі падтрыманы Радзівіламі. У 1671 г. у Веспасіяна, ад шлюбу з Аляксандрай Станкар, нарадзіўся сын Крыштаф, а ў Паўла, ад шлюбу з Канстанцыяй Станкар, сын Людвік. На элекцыйным сойме ў 1697 г. Крыштаф, услед за саксонскім курфюрстам Аўгустам, абраным каралём Рэчы Паспалітай, прымае каталіцтва пад імем Казімір. Неўзабаве Крыштаф – Казімір атрымлівае ад караля чын генерала артылерыі ВКЛ ды таксама надзвычай даходную Магілёўскую эканомію. Людвік жа робіцца віца-адміністратарам гэтай жа эканоміі і рэгіментарыем (палкоўнікам) беларускай дывізіі ВКЛ. У 1706 г. браты Сяніцкія прымаюць бок караля Станіслава Ляшчынскага, стаўленніка шведаў. У 1707 г. яны ўдзельнічаюць у захопе транспарту з расійскімі грашыма. Раз'юшаны Пётра I загадвае генералу Боўру ўзяць Быхаў, паланіць Сяніцкіх ды даставіць іх у Маскву. "Магілёўская кроніка" Т. Сурты і Ю. Трубніцкага, апісваючы паланенне Сяніцкіх зазначае: "У апошнія дні ліпеня правадзілі Сяніцкія са значна маскоўскаю світаю праз Магілёў...абодва Сяніцкія ехалі на лектыцы акавання, так што і шапкі нікому не маглі зняць. А за імі, на простых калёсах, вязлі Пятуха, пры Сяніцкіх прыслужваў якійсьці іхні пакаёвы...Па заканчэнні абеду масква адразу з Сяніцкімі рушылася з места. Згаданыя Сяніцкія былі завезены да Смаленскай мяжы, а праз Маскву сасланы ў выгнанне на Сібір, дзе доўга там у вельмі вялікіх нястачах жыццё сваё праводзілі, і там з іх адзін памёр, а другі, як з'ехаў з глузду, адасланы быў да Польшчы. А Пятух неўзабаве са сталіцы быў вернуты на Русь, прыбыў да сваіх маёнткаў, якія знаходзіліся ў Магілёўскай эканоміі". *("Могилевская хроника Т.Р. и Ю. Трубницкого" - Полное собрание русских летописей. Т. 35. Летописи белорусско – литовские. М., 1980. стр. 267.)* Як бачым, магілёўскі кранікёр добра ведае магілёўчаніна Пятуха, але не называе прозвішча "пакаёвага" Сяніцкіх, бо пэўна той не быў ураджэнцам Магілёўшчыны ды і знаходзіўся там, пэўна, не вельмі працяглы час. Не называе таксама прозвішча "пакаёвага", але вызначае яго як афіцэра надзвычайны англійскі пасланец пры маскоўскім двары Чарльз Вітварт, які даносіў з Масквы 8(19) кастрычніка 1707 г. статс – сакратару Гарлею ў Лондан што: "Генерал Сяніцкі ("mr Seniezky"), які (як я меў гонар паведаміць вам 13/24 жніўня) разам з залогай захоплены ў Быхаве, адасланы быў у Варонеж, прысланы назад у Маскву з тыдзень таму разам з яговым братам і двума другімі афіцэрамі, але ўсе яны ўтрымоўваюцца пад строгім наглядам. Простых жаўнераў сюды не вазвярнулі". А 17(28) снежня 1707 г. ён ізноў даносіў: "Я меў гонар паведаміць вам, што былы Быхаўскі губернатар Сяніцкі, які ўтрымоўваецца пад строгім арыштам у адным з падмаскоўных манастыроў. 7-га дня бягучага месяца яго, яго брата і яшчэ аднаго афіцэра, звязаўшы па руках і па нагах, кінулі ў звычайныя сані і адправілі ў месца, якое прызначана для катаванняў злачынцаў; туды ж у тую ж ноч прывезены былі прылады катаванняў..." У сваіх успамінах Людвік Сяніцкі пісаў: "...палякі, якія прыехалі ў Маскву дзеля сузірання і святкавання Палтаўскага трыумфу, сакрэтна звярнуліся да нас, ці не жадалі б мы напісаць ў Польшчу, з дэкларацыяй, што жадаюць дабра і бяспечна перавязуць гэтыя лісты. На гэта, не бачачы небяспекі, быў спакушаны мой брат, пан генерал літоўскай артылерыі, які падкупіў варту ды напісаў лісты ў Польшчу, і праз свайго слугу пана Міхала Валаховіча ("Michala Wlochowicza"), адаслаў да тых палякаў, якія з-за здрадніцтва, перахапіў генерал Боўр, і аддаў іх князю Меншыкаву, які быў на той час на царавым месцы ў Маскве. Той аддаў гэтыя лісты князю Рамаданаўскаму ды загадаў учыніць найстрогшую інквізіцыю, дзеля якой майго брата п. генерала артылерыі вазілі ў Прэабражэнск, дзе тры тыдні ўтрымоўвалі асобна ад мяне, хаця і мяне таксама прывезлі ў гэты ж манастыр. Там яму цяжкія пакуты задавалі, пасля якіх, адабралі ад нас рэшту служылых людзей ды пана Пятуха, харунжага маёй харугвы, пакінуўшы нам толькі Міхала Валаховіча, якому за нашэнне гэтых лістоў далі дваццаць пяць бізуноў, нас саміх жа адаслалі ў Сібір на выгнанне... (Sienicki L.. "Dokument...", Wilnia 1754 г., s. 6-7. ) І вось тут можна зрабіць невялічкае дапушчэнне. Заснавальнік роду Станкараў-Franciscus Stancarus – прыбыў у Рэч Паспалітую з Мантуі што ў Італіі. Як пратэстант ён прычыніўся да выдання Берасцейскай Біблії ў 1563 годзе і атрымаў прыхільнасць Радзівілаў. А мы ўжо ведаем што ў Крыштафа-Казіміра і Людвіка мацяркамі былі сёстры Станкар. Як падае "Encyklopedyja Powszechna", (Т-23, W-wa., 1866г. s. -970.), "яго́ныя нашчадкі, евангелічна-рэфармацкага веравызнання, жылі аж да нашых часоў у Троцкім павеце". Магчыма са Станкарам з Італіі прыехалі нейкія людзі, слугі ці магчыма паплечнікі па рэфармацкаму руху, якія ў Лідскім павеце ВКЛ, пэўна на землях Радзівілаў, заснавалі вёску Валаховічы, што атрымала сваю назву ад празвання італьянцаў – "Влохъ" (ГСБМ, вып. 4, Мн. 1984, стар. 44.). А ўжо іхнія нашчадкі, па моцы нейкіх абставінаў, засталіся вернымі Станкарам і працягвалі служыць іхнім нашчадкам, а ў выніку шлюбаў і Сяніцкім. Таксама адзначым тут што Д.М. Анучын, які быў знаёмы з рукапісамі Месершмідта, ў сваёй працы "По поводу реставрации мамонта для антропологической выставки." – "Известия Императорского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии, состоящего при Московском университете", Т. 35, "Труды антропологического отдела", Т.5, М., 1879, стр. 40, падае прозвішча Міхала Валаховіча як "Михаил Волович", але магчыма гэта памылка друку, якую паўтарылі і іншыя даследчыкі. У 1710 г. Сяніцкія з "пакаёвым" Валаховічам апынуліся ў Табольску, адкуль іх саслалі ў Якуцк, на шляху куды Людвік, "не даходзячы фартэцыіі Нарым" на пустынным беразе ракі пахаваў свайго брата – генерала артылерыі ВКЛ. З "Дела о пленнике Людвиге Синицком" ("Сибирския Архив.", № 5, 1916 г., стр. 235-239.) вядома, што 24 траўня 1712 г. захопленыя "ў Быхаве штурмам" былі "прысланы з Масквы з Сібірскага прыказу на выгнанне падстолле Людвік Сяніцкі ў Якуцк ды валанцёр Міхал Валаховіч ("Михайло Вловович") для адсылкі на Камчатку". У 1722 г. намаганнямі пасла Рэчы Паспалітай Станіслава Хамянтоўскага Людвік Сяніцкі быў вызвалены ад выгнання і выехаў на Жмудзь. Тады ж верагодна быў вызвалены і Міхал Валаховіч, які на зваротным шляху з Камчаткі і зрабіўся сведкам знаходкі рэштакаў маманта. Таму ён, як пісьменны чалавек (нават валодаў лацінай), якуцкім губернатарм, паводле загаду Пятра I, быў адпраўлены ў Іркуцк, дзе і сустрэўся на пачатку 1724 г. з Месершмідтам, які, як мы ведаем, з навуковымі мэтамі вандраваў па Сібіры. Там ў Іркуцку, на кватэры ў Месершмідта, Валаховіч і напісаў сваё сведчанне лацінай пра знаходку рэштакаў маманта на Індзігірцы. Ізноў ехаць на Індзігірку, па прапанове Месершмідта, Міхал Валаховіч адмовіўся, бо з надзеяй на Людвіка Сяніцкага нецярпліва чакаў на хуткае вызваленне. Але на зваротным шляху Месершмідт ізноў сустрэўся з Валаховічам, які ўсё яшчэ знаходзіўся ў Іркуцку. Гэтым разам Міхал Валаховіч папрасіў яго даць яму якіх-небудзь лекаў для сваёй цяжарнай жонкі, з якой пэўна ажаніўся на выгнанні. Месершмідт, які ў маладосці вывучаў медыцыну ва ўніверсітэтах Нямеччыны ў сваіх дзённіках адзначыў, што Валаховіч не выяўляў пры гэтым аніякіх медычных ведаў. 3 чэрвеня 1725 г. Месершмідт назаўсёды развітаўся з Валаховічам, і яны больш не бачыліся. У 1730 г., калі Месершмідт прыехаў у Данцыг, то перадаў свайму сябру І. П. Брэйну сваё малюнкі чэрапа, біўняў, зубоў і сцёгнавай косткі індзігірскага маманта ды, таксама, сведчанне Валаховіча, па якіх той зрабіў даклад у Данцыгскім навуковым таварыстве. Ужо пасля смерці Месершмідта Брэйн напісаў ліст, датаваны 28 верасня 1735 г., прэзідэнту лонданскага каралеўскага навуковага таварыства сэру Гэнсу Слоўну, які датычыў мамантавых костак, да якога дадаў свой даклад, малюнкі Месершмідта ды сведчанне Міхала Валаховіча. Гэты ліст, са ўсімі прыкладзенымі да яго матэрыяламі, быў апублікаваны ў выданні: "Philosophical transactions" Vol. 40 (1737-1738), № 446, London, 1741, p. 124-128. Праз некалькі гадоў на гэтыя матэрыялы звярнуў увагу вядомы французскі прыродазнавец Жорж Кюўе, і яны дапамаглі яму прыйсці да высновы, што мамант - гэта выкапнёвы слон. Гэтак лідзянін, хаця і не па сваёй волі, дачыніўся да разгадкі стагоддзя.

*Алесь Баркоўскі.*

* *На сёння вёскі **Валаховічы** ў Лідскім раёне няма, але ў спісе лідскай шляхты, рэпрасаванай за ўдзел у паўстанні 1863 года ("Лідскі летапісец", № 3-4 за 2003 г.) значацца: **Валаховіч Аўгустын** (сын Мацея, гадоў 30, з ваколіцы Трабушкі, высланы ў Сібір), **Валаховіч Тэафіл** (сын Пятра, гадоў 26, **з ваколіцы Валаховічы**, быў у аддзеле Нарбута), **Валаховіч** (Валасовіч) **Юзаф**. (сын Аўгустына, гадоў 20, з вёскі Кіўлакі, высланы ў Сібір), што пацвярджае існаванне населенага пункта **Валаховічы** і дае магчымасць прыблізна ўказаць яго колішняе месцазнаходжанне. (Рэд.)*

## САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ ПАДАРЫЎ БІБЛІЯТЭКАМ ВЕРХНЯДЗВІНСКАГА РАЁНА 20 КАМПЛЕКТАЎ ПЕРШЫХ ТРОХ КНІГ ПОЎНАГА ЗБОРУ ТВОРАЎ В.БЫКАВА

Менск, 4 лістапада. Саюз беларускіх пісьменнікаў (СБП) падарыў бібліятэкам Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці 20 камплектаў першых трох кніг 14-томавага збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

Пра гэта паведаміў БелаПАН старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч. Паводле яго слоў, у акцыі, што адбылася 3 лістапада, узяла ўдзел дэлегацыя СБП у складзе Сяргея Законнікава, Сяргея Панізніка, Франца Сіўко, Леры Сом і А. Пашкевіча. Перад паездкай у Верхнядзвінск яе ўдзельнікі ўсклалі кветкі і запалілі лампады ля магілы В. Быкава на Усходніх могілках у Менску. "Падчас сустрэчы ў Верхнядзвінскай гарадской бібліятэцы ішла гаворка пра ролю Васіля Быкава ў нацыянальнай культуры і грамадскім жыцці краіны. Варта зазначыць, што гэтую акцыю благаславіла жонка народнага пісьменніка Ірына Міхайлаўна Быкава", — сказаў А. Пашкевіч. Паводле яго слоў, у найбліжэйшых планах СБП — правядзенне акцыі ў бібліятэках Мазырскага раёна Гомельскай вобласці і Пінскага раёна Берасцейскай вобласці.

Лідар СБП узгадаў, што выданне поўнага збору твораў В. Быкава — гэта некамерцыйная дабрачынная акцыя. Яе задачай з'яўляецца бясплатная перадача збору твораў Быкава кожнай бібліятэцы краіны. Выданне арганізавана па ініцыятыве аргкамітэта па ўвекавечанні памяці народнага пісьменніка і СПБ пры падтрымцы грамадскасці. Яшчэ ў ліпені гэтага года на прэзентацыі ў Менску першых трох кніг поўнага збору твораў В. Быкава было абвяшчана, што ўвесь трохтысячны тыраж трохтомніка, надрукаванага ў Екацярынбургу (Расія), неўзабаве будзе распаўсюджаны па бібліятэках краіны. Выданню і папулярызацыі творчай спадчыны народнага пісьменніка Беларусі СПБ хацеў надаць характар агульнанацыянальнай акцыі. Паколькі Нацыянальная бібліятэка і абласныя бібліятэчныя калектары, міністэрствы культуры і інфармацыі адмовіліся бясплатна прымаць і распаўсюджваць выданне, СБП разам з іншымі грамадскімі арганізацыямі пачаў агульнанацыянальную акцыю "Быкаўскі кнігазбор". Яна прадугледжвае распаўсюджванне кніг па ўсіх бібліятэках Беларусі, што будзе суправаджацца выступленнямі вядомых беларускіх пісьменнікаў.

Прэзентацыю чацвёртага, пятага і шостага тамоў поўнага збору твораў Васіля Быкава планецца правесці ў пачатку наступнага года.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

*Мікалай Крыўко*

# ЛЕТАПІС БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

У тэксце даведніка праца ўкраінскага мовазнаўца І.А. Дзендзялеўскага пададзена пад пазіцыяй 1405, а ў імянным паказальніку пры гэтым прозвішчы стаіць нумар 1403.

У імянным паказальніку пры прозвішчы Баханькоў А.Я. стаіць нумар 2704, а ў тэксце даведніка на с. 325 пад пазіцыяй 2704 бачым наступнае: Бардовіч А.М. Марфемны слоўнік беларускай мовы /А.М. Бардовіч, Л.М. Шакун. – 2-е выд., перапрац. і дап. – Мінск: Вышэйшая школа, 1989- 718 с. У імянным паказальніку пад прозвішчамі Бардовіч А.М. і Шакун Л.М. ёсць таксама нумар 2704. На старонцы 326 бібліяграфічнага даведніка пад пазіцыяй 2709 пададзена: Баханькоў А.Я. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы / А.Я. Баханькоў, І.М. Гайдукевіч, П.П. Шуба. – 4-е выд., перапрац. і дап. – Мінск: Народная асвета, 1990. – 395 с., а ў імянным паказальніку пры прозвішчы Баханькоў А.Я. нумар 2709 адсутнічае. Няма гэтага нумара ў паказальніку і пры прозвішчах Гайдукевіча І.М. і Шубы П.П. У паказальніку ж пры гэтых прозвішчах (як і пры прозвішчы Баханькова А.Я.) стаіць нумар 2704, а ў тэксце бібліяграфічнага даведніка, як было паказана вышэй, пад названай пазіцыяй значыцца "Марфемны слоўнік беларускай мовы" А.М. Бардовіча і Л.М. Шакуна.

У імянным паказальніку пры прозвішчы Груца А. Стаіць нумар 2717, у тэксце ж кнігі "Беларускае мовазнаўства..." пад пазіцыяй 2717 значыцца праца Г.Ф. Вештарт (ёсць гэты нумар у імянным паказальніку і пры прозвішчы Вештарт Г.Ф.).

У імянным паказальніку пры прозвішчы Лемцюгова В.П. стаіць нумар 2723, а ў тэксце даведніка пад пазіцыяй 2723 чытаем: Каврус А. Открываются сокровища / А. Каврус // Нёман.. Пры прозвішчы Мацкевіч Ю. у імянным паказальніку стаіць нумар 2900, а пад пазіцыяй 2900 ў тэксце бібліяграфічнага даведніка пазначана праца Г.А. Цыхуна "Задачи сохранения и восстановления историко-топонимического ландшафта Белоруссии". Ёсць нумар 2900 пры прозвішчы Цыхун Г.А. і ў імянным паказальніку.

Пад пазіцыяй 2794 падаецца праца Л.М. Лыча "Імя Існае", а ў імянным паказальніку пры прозвішчы Лыч Л.М. бачым не нумар 2794, а нумар 2795.

Пры прозвішчы Рогалеў А. у імянным паказальніку бачым нумары 2797 і 2798, а ў тэксце ж даведніка пад гэтымі нумарамі пададзены працы зусім іншых аўтараў. Блытаніна ідзе і далей: у тэксце бібліяграфічнага даведніка пададзена пад пазіцыяй 2799 праца А. Рогалева "Аб Палессі і палешуках: (З гісторыі этн. Назваў)", у інянным жа паказальніку нумара 2799 пры прозвішчы Рогалеў А. няма. У тэксце даведніка на старонцы 336 пад пазіцыяй 2802 значыцца праца А. Рогалева "Ля вытокаў Белай Русі", а ў імянным паказальніку гэта праца не пазначана – адсутнічае нумар 2802.

У імянным паказальніку пры прозвішчы Шчур Т.М. стаіць нумар 2815, а ў тэксце самога бібліяграфічнага даведніка бачым пад пазіцыяй 2815 працу І.У. Чаквіна і І.У. Юхо "Белая Русь: (Пра паходжанне назвы)" (ёсць, дарэчы, нумар 2815 у імянным паказальніку і пры прозвішчах Чаквін І.У. і Юхо І.У.). Праца ж Т.М. Шчур "Структурна-семантычная класіфікацыя назваў жыхароў Гомельшчыны" пададзена ў тэксце кнігі пад пазіцыяй 2818, а ў імянным паказальніку нумара 2818 пры прозвішчы Шчур Т.М. няма.

Пад нумарам 2831 у тэксце даведніка чытаем: Гуртовенко Ю. Ещё раз об имени родного уголка.., а ў імянным паказальніку пры прозвішчы Гуртовенко нумара 2831 няма, а стаіць нумар 2834. у тэксце пад пазіцыяй 2837 пададзена праца В.М. Емельяновіч "Назвы антрапанімічнага паходжання ў тапаніміі паўночна-заходняй часткі Брэсцкай вобласці", а ў імянным паказальніку бачым пры прозвішчы Емельяновіч В.М. не нумар 2837, а, як і пры прозвішчы Гуртовенко Ю., нумар 2834. у тэксце ж самога даведніка пад пазіцыяй 2834 пазначана праца зусім трэцяга чалавека – М.А. Дарошкі.

Далей у тэксце бібліяграфічнага даведніка пад пазіцыяй 2838 чытаем: Ермаловіч М. Прыклад; варты пераймання.., у імянным жа паказальніку пры прозвішчы Ермаловіч стаіць не нумар 2838, а 2835.

Ёсць у аўтара гэтых радкоў заўвагі і іншага плана. Заўважана ў бібліяграфічным даведніку парушэнне алфавітнага размяшчэння некаторых пазіцый. Так напрыклад, пазіцыя 35 (Каханоўскі Г.) павінна стаяць у тэксце раней за пазіцыю 34 (Кахоўская Л.Ф.). у раздзеле "Імянны паказальнік" у двух выпадках меншыя парадкавыя нумары пры прозвішчах стаяць пасля большых, а не наадварот: Быкаў В. 546, 235; Никончук Н.В. 1434, 1435, 1346.

Пазіцыі аўтарскіх мовазнаўчых прац у бібліяграфічным даведніку 2004 года ў вельмі многіх месцах забяспечаны кароткімі каментарыямі і анатацыямі ад складальнікаў гэтага спецыялізаванага даведніка. Заўважаюцца моўныя памылкі ў такіх каментарыях складальнікаў. Так, пасля пазіцыі 661 змешчаны каментарый складальнікаў бібліяграфічнага даведніка, які выглядае так: "Аб археолаге, этнографе. дыялектолаге З. Я. Даленге-Хадакоўскім". У беларускай літаратурнай мове назоўнікі мужчынскага роду на г. к. Х і прозвішчы асоб мужчынскага полу тыпу Даленга, Дайнека, Рудзёха ў месным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак –у, а не –е, як напісана ў сказе, прыведзеным вышэй. Тут па-беларуску правільна: Аб археолагу, этнографе, дыялектолагу З.Я. Даленгу-Хадакоўскім. А яшчэ лепш было б тут бачыць такое напісанне: Пра археолага, этнографа, дыялектолага З. Я. Даленгу-Хадакоўскага.

Пасля пазіцыі 1918 ідзе наступны каментарый складальнікаў даведніка: "Развіццё мовы і змяненне славарнага саставу". Тут замест ужытага рускага слова *славарны* павінна быць беларускае *слоўнікавы*.

Ва ўсім тэксце гэтага даведніка яго складальнікі пішуць: рэферат на кнігу, рэферат на серыйнае выданне і інш. думаецца, правільна трэба пісаць: рэферат кнігі, рэферат серыйнага выдання і г.д., так, як, скажам, пішацца: аўтарэферат кандыдацкай (доктарскай) дысертацыі.

Ёсць у бібліяграфічным паказальніку і памылкі друку. Гл., напрыклад, нумары пазіцый 155, 519, 1408, 2612 і старонку 455.

У канцы разважанняў прывядзём некалькі заўваг па артыкулу "Вывучэнне беларускай мовы ў 1986 – 1991 гг.", змешчаным у пачатку кнігі. На старонцы 12 у артыкуле чытаем: Я.М. Адамовіч "Беларуская мова: Сінтаксіс. Пунктуацыя".., Я.М. Адамовіч "Беларуская мова: Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Лексікаграфія. Фразеалогія. Марфемная будова слова. Словаўтварэнне. Марфалогія". Для чытача тут пададзена недакладная інфармацыя. На самай справе аўтарам гэтых дзвюх кніг з'яўляецца не адзін Я. М. Адамовіч. Аўтары першай кнігі – Я.М. Адамовіч, Л.А. Акаловіч, З.І. Бадзевіч. Праца выканана пад агульнай рэдакцыяй Я.М. Адамовіча і выйшла з друку ў 1989 годзе. аўтарамі другога дапаможніка з'яўляюцца Я.М. Адамовіч, Л.А. Акаловіч, В.А. Бэкіш. Рэдактар – Я.М. Адамовіч. Гэты дапаможнік пабачыў свет у 1987 годзе.

Далей у артыкуле Ф.Д. Клімчука і В.П. Русак наступная кніга пададзена так: В.П. Красней "Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы" 2-е выд. Фактычна ж у гэтай кнізе два аўтары і выглядае тытул гэтага дапаможніка так: В.П. Красней, Л.М. Шакун. Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Вучэбны дапаможнік для філалагічных факультэтаў ВНУ. 2-е выданне. Дапрацаванае. – Мінск: Універсітэцкае. 1986.

Далей у артыкуле называецца кніга М.В. Дабрыян "Сучасная беларуская мова: Лабараторныя работы". На самай справе і ў гэтай кнізе не адзін аўтар, а тры і сам тытульны аркуш выглядае так: М.В. Дабрыян, Л.І. Сямешка, І.Р. Шкраба. Сучасная беларуская мова. Лабараторныя работы. – Мінск: Універсітэцкае, 1987.

На старонцы 13 кнігі ў згаданым артыкуле бачым: В.І. Рагаўцоў "Уводзіны ў мовазнаўства". Гэта ж кніга напісана двума аўтарамі – В.І. Рагаўцовым і А. Л. Юрэвічам (Мінск: Вышэйшая школа. 1987).

У другіх жа месцах гэтага артыкула (сс. 12, 13) пры ўпамінанні некаторых кніг прыводзяцца ўсе іх аўтары. Напр.: "Белорусский язык для говорящих по-русски» А.А. Крывіцкага, А.Я. Міхневіча, А.І. Падлужнага; М.С. Яўневіч, П.У. Сцяцко "Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы". Ёсць у артыкуле і такія выпадкі: "Дыялектны слоўнік Брэстчыны" / Склад, М.М. Аляхновіч і інш.; "Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі". У 2 т. т. 1 / Уклад, Е.С. Мяцельская і інш.

Такім чынам, дзякуючы кнізе "Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны паказальнік. 1986 – 1991" (2004) карыстальнікі гэтым выданнем – навуковыя супрацоўнікі, настаўнікі, аспіранты, студэнты, бібліятэчныя работнікі, усе, хто цікавіцца беларускай мовай, родным словам, - могуць глыбока пазнаёміцца з тым, якімі шляхамі ішло развіццё беларускага мовазнаўства ў адзначаны перыяд, якія кірункі для яго найбольш характэрныя, якія тэарэтычныя, апісальныя, навучальна-метадычныя, практычныя, папулярныя працы, прысвечаныя розным пытанням беларускай мовы, роднаму слову, выйшлі ў гэты час у свет, даведацца пра іх колькасць, пра тое. хто са спецыялістаў і што выдаў за дадзеныя шэсць гадоў.

Як было бачна з нашых заўваг і разваг, гэты бібліяграфічны даведнік, на вялікі жаль, аказаўся не пазбаўленым шматлікіх недахопаў, пропускаў, памылак, блытаніны ў лічбах і фактах і г.д. Тут відаць недапрацоўка самых складальнікаў дадзенага паказальніка – А.У. Каратэшэўскай і А.У. Трацяковай, навуковага рэдактара В.П. Русак, рэдактара выдавецтва "Беларуская навука" Г.А. Баранавай і рэцэнзентаў, якімі з'яўляюцца Р.М. Малько і С.М. Сітнік.

Цудоўна знешне аформленая кніга, выдадзеная на высокай якасці паперы, пад грыфам Нацыянальнай акадэміі навук пакідае не зусім добрае ўражанне сваім унутраным зместам, унутранай формай. Як кажуць у народзе: не ўсё тое золата, што блішчыць. Кажуць у народзе і інакш: лыжка дзёгцю ў бочцы мёду. А ў гэтай бочцы, як мы бачылі вышэй, і не адна лыжка гэтага дзёгцю.

Дарэчы, аўтар гэтых радкоў падрабязна аналізаваў два папярэднія бібліяграфічныя паказальнікі па беларускім мовазнаўстве (1980 і 1993 гадоў выдання), быў рэцэнзентам іх і па іх у аўтара былі самыя лепшыя ўражанні. Было ў нас па тых выпусках літаральна ўсяго па пары заўваг.

# Мы зноў наведалі Гудзевічы

*Як жыць, ды жыць для Беларусі,*
*А без яе – навошта жыць...*
***Ларыса Геніюш.***

У кастрычніку група актывістаў ТБК зноў наведала Гудзевічы. Дапамаглі здзейсніць вандроўку Алена Забельская, яна родам з Мастоў, папярэдне дамовілся з Алесем Белакозам, каб менавіта ён правёў экскурсію. Дарэчы, мэта вандроўкі – сустрэча з заснавальнікам музея А. Белакозам, бо апошні раз я там была ў снежні 2003 года. Цалкам згодна з Міхасём Скоблам, які ў прадмове да кнігі А. Белакоза "Каб жыла Беларусь", адзначае, што адтуль вяртаемся нібы з паломніцтва ў святое месца, адчула на сабе не аднойчы. Гэтым разам цудоўнае восеньскае надвор'е дапоўніла прыемныя ўражанні.

Прыйшоў А. Белакоз і, як заўсёды, пацікавіўся, колькі часу ў нас ёсць на музей. Дарога няблізкая, а як падумаеш, што трэба перасякаць беларускую мяжу, то ехаць у Беларусь адразу жаданне адпадае.

Дык мы яго слухалі столькі, колькі ён змог паказаць і расказаць. Пераходзілі з пакоя ў пакой нешта занатоўвалі, рабілі фотаздымкі, слухалі аповяд, захапляліся тым, што некалі пачаў і зрабіў Настаўнік Алесь Белакоз. Шкада, што ён ужо не дырэктар музея, гады два таму збіралі ў Менску подпісы ў падтрымку Алеся Мікалаевіча. Упэўнена, ён не дазволіў бы пабудаваць танцавальную пляцоўку пад самай хаткай з саламяным дахам і карыстацца музейнымі экспанатамі ў час дажынак. З безкультур'ем трэба змагацца, інакш усё разваліцца.

Напрыканцы Алесь Белакоз паказаў магілу дзеда Ларысы Геніюш, настаўніцы беларускай мовы – Веры Белакоз.

Гудзевіцкі музей – гэта Алесь Белакоз, дзеля сустрэчы з якімі зноў наведалі Гудзевічы беларусы Вільні.
Доўгіх Вам гадоў жыцця!
Жыве Беларусь!

***Леакадзія Мілаш, г. Вільня.***



*Алесь Белакоз, 15 кастрычніка 2005 г. Фота Л. Мілаш.*

С. Квіцень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ, ДУМКІ, ГАЛАСЫ

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### 84. КАСЦЁЛ

Бы зманлівым валодаў храм сакрэтам,
Прыстанак думак, хваль цяжкіх прычал.
А музыкі другой народ не ведаў –
Арган, адзін арган вакол гучаў.

Зямля лягла бяссільнаю дакорай,
Уся – суцэльна сумная дрыгва.
Ксяндзы запанавалі ў прасторы,
Дзе бедная блукала галава.

У цмяную гадзіну заціхання,
Што тут было пераступіць мяжу?
Лацінскім крыжам жабраку хістання
Не вельмі ўжо і згвалціла душу.

Набыў себе пераканаўчы доказ
Свяціла чужароднага прамень.
І ўзляцеў дзяржаўнай воляй голас,
Які толькі падкрадваўся раней.

Празмерна дзелавым пасланы Рымам,
Сваім не стаў на спадчыны сяўбе.
Калючы надта быў, непрымірымы,
З сабою побач іншых не цярпеў.

Над кожнай ненавіснай павуцінай
Старалася руплівая мятла.
Цяпер нібы ў адным кальцы змяіным
Краіна ўся стракатая была.

О, колькі іншаземшчыны-халеры
На сёйным умясцілася гарбе!
Ды позна бедавалі, што без меры
Ўзялі ўлады прышлыя сабе.

Плацілі ім мы ладную даніну.
Хто ведаў гэткі сорам на зямлі!
Былі калісьці – моцныя ліцьвіны.
Ды ў зморaныя ляхі перайшлі.

Паўсюдна баранілі ад крамолы
Ўпартыя збавіцелі-браты.
Балелі сэрцы у людзей Касцёла
За лёсы простых дзетак грамады.

А хто б другі вось так не хваляваўся
Адстойваючы ісцінны свой рух,
Бо ў сутарэннях побач заставаўся
Някуплены яшчэ, тутэйшы дух.

### 85. ТЛУМ

О, ставала працы ў Харона
З года ў год, і гнуў людзей адчай.
Колерамі чорным і чырвоным
Ляхія цвіла, ваенны край.

Без таго даўно ўжо звар'яцелых
Наравіста тузаў лёс крывы.
Лішак, пэўна, быў у буйных целах
Непатольнай лютасці крыві.

Хоць зямліцу поўнілі магілы,
Ды не пераводзілася рацъ.
І на доўгі час хапала сілы
Шабляю адточанай махаць.

Звала ў бойку смага неадольна.
У шляхецкіх як было людзей?
Толькі і лічылася дастойным
Дымнае паветра для грудзей.

Выстаўляўся тлум асатанелы
Вечнасці прыцiхлай напаказ.
І адно зямля не разумела
Гэткія забавы кожны раз.

Для яе, як пахавальнай рызай,
Сонца абвалаквала імгла.
Хваляю падпіленая знізу,
Да вады схілялася скала.

Можа, дзе чмурэў натоўпу вэрхал,
Ці спяваў ў храме Божы хор,
Але болей нежывому рэху
На баку літоўскім быў прастор.

Бычыў невядомы чорны сведка –
Паглынаў Айчыну ліха вір.
Грэшны край набожная суседка
Ды пад свой штурхала манастыр.

Яшчэ трохі тлела галавешка,
І не знік апошні дамавік.
Дзень, калі пабраліся, з усмешкай
Прыгадае пекла вартаўнік.

### 86. ВЕТРАЗЬ

Выйшаў да сонца, і хуткі, і смелы,
З юнацкаю сілай.
Смутай вятроў сярод хваль ветразь белы
Зусім закруціла.
Неба ўчапілася хмарна і звадліва,
Бы кіпцюрамі.
Растрыбушыла нядобрае, згвалціла
Скрозь скразнякамі.
Закатавала асадай дурной.
Ці не гэтак – ніколі
Не пакідалі цябе, краю мой,
Твае госці ў спакоі?
Ўсе пад сябе прыбіралі адвеку
Лёсаў клубочкі.
Так і не далі табе ў люстэрка
Ўгледзецца моўчкі.
Не адшукалі крыніцы пратоку
Вачніцы сляпыя.
Чыстае семя тваё ў зародку
Вар'яты губілі.
Вылавяць сцяг ды бярвенняў кавалкі
Рыбацкія сеці.
Стане яшчэ адным ветразем палкім
Меней у свеце.

### 87. ПАНЫ

Ля добрай пачосткі
Круціўся ён зух, канавод.
Пыхлівы і дзёрзкі
Бузіў у крыві яго род.

Аб ім кожны ведаў,
Што ў галаве без цара.
За ляхам, суседам
Да кропелькі ўсё падабраў.

Захліпваўся пенай.
Аб вольнасцях верзячы ўсяк.
Ад Любліна, пэўна,
Пачуў у жыцці самы смак.

Ад слыннай суткі
Дзяржавы напышлівы леў,
Бадай хіба толькі,
Анёльскіх ласункаў не меў.

Ужо і не Вітаўт
Натхняў на магутны прыцэл –
Краіна была паспалітая
Ўся ў руцэ.

Жыў з добраю ласкаю Боскай,
Няхай і зусім
Абходзілі дзівы заморскія –
Графы, князі.

Бо роўнасць царыла, прынамсі
Грымеў так закон –
Апошні латруга спрачаўся
Ледзь не з каралём.

Не надта хлусіла аповесць
Пра сойму базар,
Што кожны мог "ветла!" прамовіць
Уголас у твар.

Звяло нас, дзяцей раздарожжа
Ў дзяржаву адну.
Дык здрадзіў жа яснавяльможны
Народу свайму.

Па роднаму слову не плакаўся,
Ляшства сцярпеў.
Прыдаткавай бляклаcцю
Зганьбіў кар'еру сабе.

Разбавіў чужынную зграю.
Ды што гаварыць!
Вялікае рэчышча краю
Не здолеў адрыць.

Адно аб няспыннай вайне
Дбалі шабля з ружжом.
Ах, ведалі гэта раней
Мы, панове, ужо.

І бачылі воіна перад вачыма,
Героя-арла.
Ды прахам аднойчы Айчына
Па свету пайшла.

### 88. САРМАЦКІ ПАРТРЭТ

Далёкі стэпавы джыгіт
Ліхтар пазычыў ідэала.
Крыві няўрымслівай блакіт
Гарачым рэхам хвалявала.

З запалам аж – не аднаго
Да даўняй клікала магілы.
Адтуль, з сармацкіх берагоў
Богаабранасцю свяціла.

Але наступнікаў такім
Ужо пазначыла цяжарам,
Што з пахам пораху адным
І рукі звыкліся, і твары.

Усё другое – каламуць.
Абранцаў вечнай славы ратнай
У памяці пераўзыйдуць
Якія іншыя гераклы?

І гэты клопат нам Касцёл
Даруе, як труне – падаткі.
О, хай на наша небыццё
Не надта скардзяцца нашчадкі.

Узнімемся са звад гразі
І расцвіцем пад пэндзлем гжэчна
Жыццё – кароткае зусім,
Адно жыве мастацтва вечна.



Душа маўчыць пра раю высь,
Не просіць зорку ў паднябессі.
Такімі, як былі калісь,
У зроку вашым застанемся.

Ніхто з нас не абміне
Павагай продкаў галярэя.
А як заціхнем на сцяне –
Ніколі ўжо не састарэем.

Не пасівее цвіллю след –
Не стане бляклым і былое.
І пераборлівы наш свет
Сваім паклоніцца героям.

### 89. МЯЛЕШКА

Па самае горла было ўжо годзе
Вачам.
- Хоць костка свая, ды смуродзіць, –
Бурчаў.
Лічылі другія – ды ён жа страшэнны
Баран.
Зусім не сучасны, як камень, замшэлы
Злы пан.
І што за лухту адшчапенец мяцежны
Вярзе!
А дужа пляваўся на моды замежныя
Ўсе:
-Набегла на кожнага звонку навала –
Дык жудзь!
Хоць грэбуюць, шэльмы, сваім, але ж сала
Ядуць!
І іншы здаецца панадным
Сабе ахламон.
Што возьмеш з яго ты? У малпы –
Варшаўскі сезон.
Напэўна, запарыўся
Ў пошуках шарму ўсяго.
Згарыць хай такая вось
Высакароднасць яго!
Не гонар клапоціць – хай будзе чужынцу
Ў заклад.
Пайшла ўжо краю зямліца
На здзек, на раскрад.
Дамогся аж лёкаю стужкі
Панок дарагі.
Наладзіў сабе пабягушкі
Быў блазан такі.

### 90. ШКОЛЬНЫ ТЭАТР

Бралася вынаходлівая рацъ
За справу без адцяжкі і крутні.
Падказваў дух зямлі – перамагаць
Умельствамі вялікімі сваімі.

Нібы чакалі госцейкаў сюды –
Знайшлі сабе спагадлівых сяброў.
Запальвалі вачніцы грамады
Іх таленты настаўнікаў, майстроў.

Было прышэльцам не да спраў-блазнот-
Для славы Бога езуіт карпеў.
І звалі гучна малады народ
Калегіюмаў класы да сябе.

А там другая ўжо замест карчмы
Зацягвала салодкая смала.
Не кафедры паважныя адны –
Яшчэ і сцэна ўвішная была.

Уся бліскучай прагнула ігры.
Жарсцей збірала ранішні імпэт.
Там прадстаўлялі вучні-шкаляры
У дзеях і асобах белы свет.

Прыходзіла натхненне ў валтузню
І меў эфект прылад ажно карысць –
Правальваліся чэрці скрозь зямлю
І ўзносіліся праведнікі ўвысь.

Чаго і не ўмелі апрача?
Свяціў і скамарошны той прамень.
А хвалі паглыналі на вачах
Палаючы на моры карабель.

Чый тут заўжды знаходзіўся паэт.
Цяплела ноч ад свечкі-ліхтара.
Спяшалася трагедыя – прадмет
З-пад гаваркога іншага пяра.

А і забавай цешылі людзей.
Дык моршчыліся нават абразы.
Гучалі ў перапынках паміж дзей
Вучнёўскіх інтэрмедый галасы.

Нязграбна паварочваўся язык,
Ды з волі пракрадалася свята.
Дыханне перахватвала ўміж-
Спявала слоўца роднае, сваё!

Не Віфлеем быў, не Ерусалім.
Хоць з-за хлява, ды толькі не на здзек
Высоўваўся раптоўна селянін,
Знаёмы, сэрцу блізкі чалавек.

У самы час дурныя слых і зрок
Раптоўная жывіла свежына –
Як сырадою цёплага глыток
Пасля бутэлькі кіслага віна.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Адчуўшы сэрцам музыку зямлі

У гэтым годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла ў свет новая кніга вершаў і песень Міхаіла Ясеня "Вайна. Каханне. Перамога".

Лаўрэат усесаюзных і рэспубліканскіх конкурсаў паэт Міхаіл Ясень добра вядомы такімі арыгінальнымі песнямі-баладамі, як "Памяць сэрца", "Абяліскі", "Майскі вальс", "Айчына". Па колькасці, мастацкім ўвасабленні ваенна-патрыятычнай тэмы літаратурная творчасць удзельніка Вялікай Айчыннай вайны М. Ясеня не мае сабе роўных. Яго творы гучалі ў выканнанні Віктара Вуячыча, Ярослава Еўдакімава, Ігара Сарокіна. Міхаіл Ясень працаваў з 50 кампазітарамі – У. Алоўнікавым, Ю. Семянякам, І. Лучанком, Э.Зарыцкім, Д. Смольскім, В. Буднікам, Л. Захлеўным...

Яго песні пазначаны сёння ў рэпертуарах многіх калектываў і выканаўцаў, гучаць ў канцэртах, па радыё і ў тэлеперадачах. Яны захапляюць сваёй эмацыянальная яскравасцю, значнасцю вобразаў, яркім меладызмам, які заснаваны на беларускіх інтанацыях. Талент аўтара ацаніў калісьці яшчэ Леанід Уцёсаў, паклоннікам яго творчасці быў Пятро Міронавіч Машэраў, і ншыя.

А перамога беларускага выканаўцы з песняй на словы Міхаіла Ясеня на Усесаюзным конкурсе майстроў эстрады ў 1966 годзе ў Маскве паслужыла імпульсам для развіцця ўсяго песеннага жанру ў нашай рэспубліцы. Пасля пачалі з'яўляцца такія ансамблі як "Песняры", "Верасы", "Сябры". Цяжка знайсці чалавека, які б не чуў аднойчы яго песень. Кожнае веснавое свята яны гучаць на плошчах і праспектах, на школьных і студэнцкіх вечарынах.

"Памяць сэрца", "Майскі вальс", " Бацькоў не забывай", " Вяргіня" – сталі беларускай песеннай класікай.

Аўтар гэтых вершаў - вельмі сціплы, дабразычлівы чалавек, па-суседску ветлівы, які заўсёды ставіцца да людзей з павагай, шчырасцю. Яму давялося прайсці няпросты жыццёвы шлях .

Міхаіл Аронавіч Ясень (Гольдман) нарадзіўся ў 1924 годзе ў Менску ў беднай яўрэйскай сям'і. Да вайны ён жыў з бацькамі і сястрой у адным пакоі камунальнай кватэры на вуліцы К. Маркса. На яго памяці засталося шмат гістарычных падзей. Калісьці яшчэ ў 1934 годзе з дзіцячай дэлегацыяй ён вітаў удзельнікаў першага з'езду беларускіх літаратараў. Хлопчыку пашчасціла бачыць кіраўнікоў дзяржавы тых часоў: Галадзеда, Гікалу, Чарвякова. Давялося яму сустракацца пазней і з Якубам Коласам. З дзяцінства ен зачытваўся творамі беларускіх пісьменнікаў, асабліва любіў Змітрака Бядулю, Якуба Коласа, Янку Маўра.

Заўсёды вабіла і прыводзіла ў захапленне хлопчыка родная прырода: лясы, лугі з водарам траў і кветак, паляны, узгоркі, палі. Яна і засталася на ўсё жыццё невычэрпнай крыніцай натхнення.

Скончыўшы 8 класаў сярэдняй школы, Міхаіл паступіў у будаўнічы тэхнікум. Там юнак паспяхова вучыўся, а атрыманую стыпендыю з гонарам аддаваў маці.

22 чэрвеня 1941 года Міхаіл Ясень сустрэў на занятках па геадэзіі ў раёне сённяшнега парка імя Чалюскінцаў, калі трывожны голас дыктара аб'явіў па радыё аб пачатку вайны.

Разам з маці, яе сястрой і дачкой пад бамбёжкамі яны дайшлі да Барысава і паспелі сесці ў апошні цягнік, які ішоў у Расію. Праз некаторы час сям'я апынулася ў Сталінградзе. Там юнак пайшоў працаваць рабочым на мецізны завод, які выпускаў прадукцыю для фронту. У 1942 годзе, ва ўзросце 18 год, разам з маладымі рабочымі ен быў прызваны ў армію.

Прайшоўшы падрыхтоўку для навабранцаў, Міхаіл Ясень атрымаў накіраванне на Волхаўскі фронт. Ен патрапіў у 854 артылерыйскі полк 286 стралковай дывізіі і з'яўляўся артылерыйскім разведчыкам. Волхаўскі фронт амаль увесь ляжаў у балотах, імхах, быў пакрыты дробным лесам і тарфянікамі. Там напаткалі беларуса рэактыўныя мінамёты, частыя бамбежкі і артабстрэлы, віскат мін і глухое буханне снарадаў, вогненныя трасы аўтаматных куляў. Смерць не аднойчы глядзела яму ў вочы.

Будучаму паэту давялося ўдзельнічаць у цяжкіх баях пры прарыве блакады Ленінграда, змагацца на поўначы краіны. Ён не спадзяваўся застацца жывым. Вершы нараджаліся сярод агню і крыві, яны ішлі з самога сэрца, як сведчанне тых падзей.

І толькі праз шмат гадоў патрапілі яны на старонкі кніжак і прагучалі з усхвалявваных вуснаў спевакоў. "Ліст з 1945", "Вайна. Каханне. Перамога" - гэтыя выданні прысвечаны баявым сябрам паэта па 286 дывізіі, і у іх увайшлі лепшыя ўзоры ваеннай лірыкі.



Браты і сёстры Гольдман

Тады, ў 1945-ым, выратавалі яго мужнасць і адвага, а таксама добрая спартыўная загартоўка і вера у тое, што зноў удасцца пабачыць родны горад і сям'ю, абняць бацькоў. На шчасце, яны засталіся жывымі, але дзядзька Навум і яго жонка загінулі ў гета.

Вярнуўшыся ў родны горад, Міхаіл Ясень закончыў на выдатна школу рабочай моладзі і паступіў у Менскі палітэхнічны інстытут. Пасля яго заканчэння М. Ясень працаваў на інжынерных пасадах на прадпрыемствах і ў навуковых установах. Ен быў лаўрэатам Усесаюзнага конкурсу тэхнічнай творчасці і быў узнагароджаны Срэбным медалём ВДНГ СССР.



Міхаіл Ясень

Вядомасць і слава ніколі не песцілі паэта. Лаўры папулярнасці часцей атрымлівалі кампазітары ды выканаўцы, аўтар пранікнёных слоў часцей заставаўся ў цяні. Бывала, што і не давалі ходу новым творам, папракаючы, што ён не з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў. У 60-70 гады Міхаіл Аронавіч працаваў інжынерам-канструктарам ў інстытуце "ПрамтрансНДІ праект", стаяў за кульманам, вечары прысвячаў сямейным клопатам, і часам толькі ноччу знаходзіў гадзіны для творчай працы. Але ўсё сапраўднае, чыстае, шчырае нараджаецца ў далечыні ад мітусьні ды паказушлівай пыхі. Жонка Эла Навумаўна і сын Леанід заўсёды стваралі вакол яго ўтульную атмасферу любові і дружбы, узаемапаразумення.

На самай справе Міхаіла Ясеня можна лічыць любімым народным паэтам, таму што без яго "Майскага вальсу" не абыходзіцца ні адно ўрачытае святкаванне Дня Перамогі. Гэту песню спяваюць і дарослыя, і дзеці.

У сувязі з 60-годдзем Вялікай Перамогі сёлета заслужанага паэта павіншавала грамадскасць, а таксама Патрыярх Маскоўскі і Усея Русі Алексій II, і Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт. У адказ Міхаіл Аронавіч перадаў ім песню "Ратуйце вашы душы":

*Каб веру вы і мову не згубілі,*
*Каб бацькоў*
*старэнькіх прытулілі,*
*Каб вёску, дзе вы жылі,*
*не забылі*
*Ў наш шалёны*
*і жахлівы час,*
*Ратуйце вашы душы!*
*Ратуйце вашы душы!*
*Ратуйце вашы душы!*

Любоў да Радзімы паэт пацвердзіў тым, што не пакінуў яе, не з'ехаў з роднага Менску, а па сённяшні дзень жыве ў адным з ціхіх двароў, дзе "залатым лісцем поўны сад".

*" І нічога больш не трэба,*
*Бацькаўшчына!*
*Толькі бачыць твае неба,*
*Бацькаўшчына"*
*Станем мы тваёю глебай,*
*сіняй рэчкай,*
*жытнім хлебам,*
*Юным дрэвам,*
*родным словам,*
*Бацькаўшчына",*

- так прамаўляе паэт да роднай зямлі, музыку якой ён адчувае сэрцам.

Няпростым з'яўляецца шлях стварэння песні. Патаемна прыходзяць вобразы, нараджаюцца хваляўнічыя радкі ў душы аўтара. Але далей ідзе настойлівы клопат: трэба знайсці суразмоўцу - кампазітара, які пакладзе словы на музыку, апрацуе мелодыю, зробіць аранжыроўку, прыдумае аркестровую афарбоўку. А затым прапануе спеў выканаўцу, які надасць твору новае жыццё.

А пасля ўжо:

*Гучыць, ляціць*
*цудоўная мелодыя,*
*Над пушчай,*
*над прасторамі палёў.*
*У ёй Айчыны*
*чуецца рапсодыя.*
*Рамонкаў песні,*
*спевы васількоў.*
*Нібы плывуць з нябёсаў*
*гукі чыстыя,*
*Крыніц празрыстых,*
*звонкіх ручаёў.*
*Яны гучаць*
*акордамі ўрачыстымі,*
*Як на сустрэчы*
*дарагіх сяброў...*

За 50 гадовы творчы шлях песні М. Ясеня прыйшліся вельмі да спадобы слухачам як на Беларусі, так і за яе межамі. Аб гэтым сведчаць шматлікія лісты ўдзячнасці, якія ідуць з розных гарадоў краіны, з блізкага і далёкага замежжа. Ветлівасць, гасціннасць і шчырасць паэта ацанілі добрыя сябры, сярод якіх былі і ёсць паэты, журналісты, кампазітары, спевакі: Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Адам Русак, Алесь Бачыла, Валянціна Бандарэнка, Людміла Мітаковіч, Міхаіл Фінберг, Нэлі Багуслаўская, Іосіф Кабзон, Яраслаў Еўдакімаў, ды звычайныя, простыя людзі.

Усе яны зычаць дарагому паэту добрага здароўя і доўгіх гадоў жыцця, творчага плёну і аптымізму!

**Э. Оліна.**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 11. 2005 г. у 11.30. Замова № 1711.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.